НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 22 (907) 10 чэрвеня 2015 www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. АднОўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Людзі, ідзе падпіска на паўгоддзе!

Не забудзьце падпісацца самі, падпісаць сваякоў! **«Наша Ніва» — гэта ваша ніва.** **Старонка 2.**

## Па слядах Пастаялкі. Як Васіль Жарко зрабіў кар'еру міністра аховы здароўя



Гісторыя чыноўніка, які даўжэй за ўсіх затрымаўся на пасадзе міністра. **Старонка 4.**

# Пра якія выбары гаворка, калі іх ізноў праводзіць Ярмошына?

Выбары прэзідэнта могуць быць прызначаныя на **11 кастрычніка**.



Сяргей Гудзілін

У любой дэмакратычнай краіне кіраўнік Цэнтрвыбаркама павінен карыстацца даверам усіх палітычных сілаў. Як толькі апазіцыя выказвае прынцыповы недавер да гэтага чалавека, ён сам сыходзіць у адстаўку.

Ярмошына не мае ніякага даверу апазіцыі. Больш за тое, яна называла сябе «чалавекам прэзідэнта». Яна правяла ўжо дзясятак выбараў, і ніводныя з іх не былі прызнаныя свабоднымі і справядлівымі назіральнікамі АБСЕ. І яна ўсё яшчэ іх праводзіць.

Менавіта ад Лідзіі Ярмошынай у аўторак стала вядома, што выбары, найхутчэй, будуць прызначаныя на 11 кастрычніка. Гэта значыць, на месяц раней крайняга тэрміну, дазволенага канстытуцыяй, праз чатыры месяцы ўжо. Ніводная ўмова свабодных выбараў: роўны доступ да СМІ, атмасфера канкурэнцыі без страху, падлік галасоў з удзелам членаў камісіі ад апазіцыі — ні разу не была выкананая.

«Але ўсё будзе годна і па канстытуцыі», — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з Лідзіяй Ярмошынай.

**Мікола Бугай**



# Маша і Саша

Незвычайная гісторыя кахання назло раку.

**Старонка 10.**

Ірына Арахоўская

Пабачана знутры

## «Справа прынцыпу» без прынцыпаў



Сяргей Гудзілін

Карэспандэнт «Нашай Нівы» **Улад Швядовіч** пабываў на ток-шоу **Вадзіма Гігіна** і пранік у **закуліссе**. **Старонка 6.**

**99% гледачоў, чые рукі я бачыў, да пультаў не дакраналіся. Тым часам іх меркаванне на экране змянялася ў адзіным патрыятычным рытме**



# Ладуцьку паставілі на чале «Мотавела», у якім з 2700 засталося 180 работнікаў

Супраць ранейшага гаспадара заведзеная **крымінальная справа**.

«Мотавела» і шклатарны завод у Ялізаве могуць быць нацыяналізаваныя. Ранейшы гаспадар кампаніі, бізнэсмен Аляксандр Мураўёў, нахутчэй, быў затрыманы. А работнікі «Мотавела» ўжо пазнаёміліся з новым дырэктарам. Ім стаў былы старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька, які заставаўся без пасады з мінулай восені.




### Аўстрыйцы ў Ялізаве

Паводле інфармацыі беларускіх СМІ, на Аляксандра Мураўёва, яго двух братоў і шасцярых партнёраў заведзеная крымінальная справа. Іх падазраюць у парушэнні інвестыцыйнай дамовы.

**Адкуль вязуць веласіпеды ў Беларусь?***

1) Кітай — 106 000
2) Расія — 38 000
3) Польшча — 3000
4) Бангладэш — 3000

Агулам — 156 000 коштам $15,9 мільёна

**Куды прадаюць беларускія веласіпеды?***

1) Узбекістан — 21 159
2) Расія — 14 611
3) Украіна — 9 755
4) Туркменістан — 5 400

Агулам — 61 350 коштам $4,5 мільёна

*дадзеныя за 2014 год

Карані бізнэсу Мураўёва малавядомыя. Капітал называюць расійскім. Да пачатку 2000-х прадпрымальнік узначальваў кампанію АТЕС, зарэгістраваную ў Вене. У адным будынку з ёй знаходзіліся прадстаўніцтвы «Лукойла», «Аэрафлота» і іншых расійскіх кампаній, па суседстве — «Внешторгбанк».

У 2001 АТЕС выйшла на беларускі рынак, набыўшы акцыі шклозавода ў Ялізаве. Прадпрыемства працавала ў рабочым пасёлку ў Асіповіцкім раёне яшчэ з часоў Расійскай Імперыі.

У 1990-я «Ялізава» было акцыянавана. На завод прыйшоў канадскі інвестар, але праект праваліўся.

Аўстрыйцы на чале з Мураўёвым пагадзіліся ўкласці грошы ў аднаўленне вытворчасці. Ім перайшло 65% акцый, рэшта засталася ў дзяржавы.

Дзякуючы інвестыцыям, з Ялізава выйшла ўзорнае прадпрыемства. Аляксандр Лукашэнка неаднаразова называў яго ўдалым прыкладам дзяржаўна-прыватнага супрацоўніцтва.

### «Мотавела» ў нагрузку

У 2007 годзе Мураўёву перадалі яшчэ адно разваленае прадпрыемства. Мінскае «Мотавела» так і не ачуняла пасля развалу СССР. Акцыянерамі сталі работнікі завода, але яны не далі рады рынкавым умовам і папрасіліся назад пад крыло дзяржавы. Даходзіла да таго, што напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў рабочыя перакрывалі Партызанскі праспект у Мінску.

Вытворчасць каштавала аўстрыйцам $7,2 мільёна. Дамова была заключаная з умовай, што інвестар укладзе ў «Мотавела» $20 мільёнаў і нарасціць аб'ёмы вытворчасці да 500 тысяч веласіпедаў.

З гэтым у аўстрыйцаў не атрымалася. Дастатковага попыту на ўнутраным рынку не было, дый прадукцыя была даражэйшай за кітайскія аналагі.

Тады Мураўёў стаў здаваць непатрэбныя прамысловыя плошчы ў арэнду. Была аптымізаваная і колькасць работнікаў. Паводле дадзеных Міністэрства фінансаў, у 2006 годзе, да прыходу інвестара, на «Мотавела» працавала 2700 чалавек. Летась засталося толькі 180 работнікаў.

Прадпрыемства дало прыбытак, хоць і невялікі. Пазалетась — $325 тысяч, летась — $110 тысяч.

### Правал шклатаравай галіны

А вось сітуацыя на «Ялізаве» была значна горшай. «Пры вытворчасці шклатары 30% сабекошту займае газ. Калі мы пачыналі працу, кошт тысячы кубаметраў быў і для нас, і для расійскіх канкурэнтаў аднолькавым, $40, — тлумачыў Мураўёў. — Цяпер расійскае прадпрыемства

**У 2012 годзе Мікалай Ладуцька змяніў Аляксандра Мураўёва на пасадзе старшыні Беларускай федэрацыі веласпорту**

плаціць $70, мы — $340. Ці магчыма канкураваць у такіх умовах?»

На «Ялізаве» ўзніклі запазычанасці па заробках, большасць работнікаў была пераведзеная на 2/3 стаўкі. Зрэшты, на іншых прадпрыемствах галіны сітуацыя аказалася яшчэ горшай. Напрыклад, «Гомельскі шклатарны завод» (пабудаваны ў 2008) і «Белеўратара», якімі таксама валодалі аўстрыйцы, збанкрутавалі.

**Ягор Марціновіч**

# Жарлівыя вусені рухаюцца з-пад Маладзечна ў бок Валожына

Пражэрлівыя шаўкапрады **знішчылі ўсё на сваім шляху.**



Вусені няпарнага шаўкапрада пакідаюць за сабой пустыню. Стагадовы дуб перажыў дзве сусветныя вайны, але аказаўся безадпаможным перад паўзучым шкоднікам.

Да гэтага года нічога падобнага мясцовыя жыхары не бачылі. Бяда прыйшла вясной. Вусені атакавалі вёску раптоўна. Маладое лісце знікала літаральна на вачах.

З невялікімі садовымі дрэвамі пражэрлівыя істоты распраўляюцца за пару дзён, дубы і ліпы здаюцца за тыдзень. Знішчыўшы лістоту на слівах, ігрушах, вусені пераходзяць на парэчку, маліну, клубніцы. Мясцовыя жыхары днямі трымаюць абарону.

Пад стрэхамі хатаў можна бачыць тысячы пераплеценых павуціннем коканаў.

Спробы сабраць шкоднікаў сканчваюцца жудаснай алергіяй. Пальчаткі не дапамагаюць. Дробныя валасінкі лічынак разносіць вецер, і яны раздражняюць скуру. Па ўсім целе выскокваюць пухіры, яны моцна свярбяць.

Жыхары Канюхоў назіраюць жахлівыя карціны: дзясяткі тысяч вусеняў суцэльным дыванам перасоўваюцца ад дрэва да дрэва.

Няпарны шаўкапрад — гэта не прышлы монстар, а звыклы для Беларусі від. Не трэба яго блытаць з тутавым шаўкапрадам, які разводзяць для вырабу шоўку. Але калі раней няпарны шаўкапрад сустракаўся найбольш на поўдні і лакальна, то цяпер мігравао і стаў імкліва размнажацца. Прычына гэтага сёлета — цёплыя, сухія зіма і вясна гэтага года. Спыніць распаўсюд яго можа дажджыстае надвор'е, якое замінае параванню матылькоў шаўкапрадаў і прыводзіць да адкладання неаплодненых яек.

Навукоўцы зафіксавалі, што, калі ў наваколлі няма ўлюбёных дубоў, ліпаў, сліваў, шаўкапрады грызуць нават маладыя дрэўцы хваёвых парод. Сапраўдная з'ежа!

Каб сітуацыя не выйшла з-пад кантролю, спецыялісты настойваюць на папераджальных ударах.

«Папуляцыі трэба прыбраць альбо хімічным спосабам, альбо механічным», — кажа Алег Барадзін, генеральны дырэктар навукова-практычнага цэнтра Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі па біярэсурсах.

Небяспека чакае гаспадароў падворкаў на Валожыншчыне. Іншы эпіцэнтр з'яўлення вусеняў — пад Смілавічамі.

**Сяргей Гезгала**

## Сцісла

### Расійскі часопіс могуць закрыць пасля інтэрв'ю з Міхалком

Расійская версія часопіса *Maxim* атрымала папярэджанне за публікацыю інтэрв'ю з нецэнзурнай лаянкай. Мацюкі ўтрымліваюцца ў гутарцы з беларускім спеваком Сяргеем Міхалком. Журналіст пазначыў лаянку кропачкамі, а ў дужках раскрыў сэнс сказанага. Папярэджанне стала для часопіса другім за год.

### Над Беларуссю раскідалі «катлеты» ад шаленства

Над тэрыторыяй Брэстчыны, Віцебшчыны, Гродзеншчыны і Міншчыны з самалётаў раскідваюцца спецыяльныя брыкеты, у якіх знаходзіцца капсулы з вакцынай ад шаленства для дзікіх жывёлаў. Брыкет важыць каля 30 грам. Калі яго змесціва трапіла на скуру, трэба прамыць гэты ўчастак вадой.

### Скульптура за $141 мільён

Скульптура 1947 года «Чалавек паказвае» работы швейцарскага майстра Альберта Джакамеці была прададзеная на аўкцыёне *Christie's* за рэкордную суму. Пакупніком аказаўся 58-гадовы мільярдэр Стыў Коэн, 106-ы багацей Зямлі ў спісе *Forbes*.

### У Мінску знік аўтар скандальнага роліка пра метро Антон Піеў

Пошукава-выратавальны атрад «Анёл» шукае Антона Піева, які знік у канцы мая. 28-гадовы мінчук атрымаў вядомасць пасля таго, як у 2011 годзе ноччу зняў відэаролік на станцыі метро «Маскоўская».

**ЯМ**

## Апытанне на nn.by

**Як Вы ставіцеся да людзей з нетрадыцыйнай сэксуальнай арыентацыяй?**

| | | |
|---|---|---|
| Нейтральна | 521 | 33% |
| Негатыўна | 462 | 28% |
| Нармальна | 282 | 18% |
| Я сам належу да іх ліку | 63 | 4% |
| Не сутыкаўся з такімі, не ведаю | 72 | 5% |
| Ніяк | 195 | 12% |

Агулам прагаласавала 1595 чалавек.

## Самае чытанае на nn.by за 3 —9 чэрвеня

1 Марыя і Саша: неймаверная гісторыя кахання хворай на рак 18-гадовай дзяўчыны
2 Слёзы і соплі: партрэты літоўцаў, якія не хочуць служыць у войску
3 У аграгарадку Белавежскі праваслаўныя патрабуюць прыбраць каталіцкі крыж
4 Ксеніі Сабчак пагражае год турмы за фота ў *Instagram*
5 Фоты Ігара Пцічкіна пасля смерці ў СІЗА і за 4 дні да смерці: справа накіравана на новы разгляд
6 Баевікі ДНР і ЛНР перайшлі ў наступ, заяўляюць пра захоп Мар'інкі
7 Задача на логіку прадэманстравала нелагічнасць 90% людзей
8 Расійскі акцёр Панін: «Спадар Парашэнка, я б перарэзаў вам горла!»
9 СМІ: Арыштаваны беларускі «шкляны кароль» Аляксандр Мураўёў
10 Жырыноўскі: Саўчанку — павесіць, Кіеў — разбамбіць, ракеты нацэліць на еўрапейскія сталіцы

# «Прызначэнне Саакашвілі выклікае ў Расіі істэрыку»

Пра першыя дні Міхаіла Саакашвілі ў Адэсе, рэакцыю на гэта расійскай прапаганды мы пагаварылі з галоўным рэдактарам самага папулярнага адэскага сайта *Dumskaya.net* **Алегам Канстанцінавым.**





Саакашвілі на маршы вышыванак у Адэсе.

**«Наша Ніва»: Як у Адэсе ўспрынялі прызначэнне Міхаіла Саакашвілі губернатарам вобласці?**

**Алег Канстанцінаў:** Першапачаткова навіна, канечне, шакавала. Мы нават падумалі — гэта жарт. Большасць адэсітаў успрыняла гэта са стрыманым аптымізмам. Усё ж новая асоба, ніяк не звязаная з мясцовым палітыкумам. Гэта дае спадзяванне, што сістэма кіравання вобласцю будзе не на карысць пэўнаму клану, а ў інтарэсах усяго рэгіёна.

Ліберальна настроеныя людзі ўспрынялі гэта з захапленнем, азіраючыся на Грузію. Яны спадзяюцца, што спадару Саакашвілі ўдасца паўтарыць свой грузінскі досвед. Эксперты больш стрыманыя, бо губернатар — гэта не прэзідэнт дзяржавы з паслухмяным парламентам. Губернатар — гэта адзін з чыноўнікаў, ад якога не так шмат залежыць у нашых умовах. Ніводнае вялікае рашэнне: эканамічнае, па пытаннях уласнасці, бюджэту — без падтрымкі абласной рады немагчымае. А на сёння большасці ў абрадзе ў нас няма. Там вялікае значэнне маюць былыя рэгіяналы, якія настроены крайне крытычна да Міхаіла Саакашвілі.

Новаму губернатару будзе няпроста. З іншага боку, наколькі мне вядома, Пятро Парашэнка даў сур'ёзны карт-бланш Саакашвілі на навядзенне парадку ў Адэскім рэгіёне. Вось апошняе прызначэнне кіраўніка Адэскай абласной міліцыі пра гэта сведчыць: ім стаў былы намеснік міністра МУС Грузіі Кіпанідзэ. За Саакашвілі сёння стаіць увесь дзяржаўны апарат, сілавікі таксама будуць каардынавацца з ім.

**«НН»: Гаварылася аб скарачэнні чынавенскага апарату.**

**АК:** Гэта пакуль толькі намеры. Была заява пра замену кіраўніцтва 24 з 27 раёнаў вобласці. Насамрэч, гэта расійскія СМІ так інтэрпрэтавалі. Бо на сёння ў Адэскай вобласці няма 24 кіраўнікоў раёна, а ёсць выканаўцы абавязкаў. І такая вычварная форма кіравання ў нас цягнулася цэлы год. Звычайна ў кіраўніка вобласці ёсць першы намеснік, які адказвае за эканамічны блок, намеснік па аграрнай палітыцы, па будаўніцтве. У былога губернатара Паліцы не было намеснікаў. Ролю намеснікаў ігралі дарадцы — гэта чыноўнікі, якія трапілі пад люстрацыю і не мелі права бліжэйшыя 10 гадоў займаць кіруючыя пасады. Гэта спадар Кучук, які быў намеснік кіраўніка Кіеўскай абласной адміністрацыі і сыграў у падзеях на Майдане неадназначную ролю. І спадарыня Чыкадар, былы віцэ-губернатар, якая трапляла пад закон аб ачышчэнні ўлады. Ніхто не разумеў, хто за што адказвае. Сам спадар Паліца большасць часу праводзіў не ва Украіне, а ў Швейцарыі. Поўнае вар'яцтва.

**«НН»: Карупцыя — гэта галоўная праблема, з якой будзе змагацца Саакашвілі?**

**АК:** Усе кажуць пра барацьбу з карупцыяй. Але ж карупцыю не можа перамагчы адзін асобна ўзяты губернатар, нават калі гэта Саакашвілі. Гэта патрабуе намаганняў усіх галін улады. Губернатар у нас жа не можа нават звольніць начальніка міліцыі, не можа ўздзейнічаць на мытню і падатковую службу. Ён можа змяніць сітуацыю толькі ў сваім ведамстве, спыніць казнакрадства, можа ўздзейнічаць на мэраў гарадоў, дзе квітнее карупцыя. Але адзін ён не адужае карупцыю.

**«НН»: У Расіі прызначэнне Саакашвілі выклікала шал.**

**АК:** Прызначэнне Саакашвілі выклікае ў нашых былых сяброў з Расіі стан блізкі да істэрыкі. Яны яго баяцца страшна. Бо гэта шчыры чалавек. Чалавек, які ваяваў з Расіяй. Гэта чалавек, які ненавідзець не рускіх, ён не русафоб, а Расію як агрэсіўную, аўтарытарную імперыю, якая пагражае самому існаванню Грузіі і Украіны. Калі праціўнік цябе баіцца, то ты напалову пераможа. Адэская вобласць — гэта ключавы рэгіён Украіны, наўрад ці нашы сябры з Масквы тут нешта ўжо зробяць, але стабільнасць у Адэсе — зарука стабільнасці ва ўсёй Украіне.

Расійская прапаганда шмат чаго кажа, напрыклад, што па адэскіх вуліцах ходзяць злыя нацысты, палячь усіх. Іх слухаць — сябе не паважаць.

**«НН»: А дзе жыве Саакашвілі ў Адэсе?**

**АК:** Гэта інфармацыя з'яўляецца закрытай. Але па нашых дадзеных, ён жыве ў доме прыёмаў абласной адміністрацыі. Ён ахоўваецца, але за ім узброены спецназ не ходзіць. Ён некалькі разоў гуляў па горадзе, размаўляў з адэсітамі, фатаграфаваўся, ён больш адкрыты за папярэдніх губернатараў. Шыкоўнага асабняка ў Адэсе ён не мае.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# Вар'яты ў эфіры: шал працягваецца

На мінулым тыдні антыўкраінскі шал у Расіі працягнуўся з павышанай сілай.

Так званыя «эксперты» з розных колаў актывізаваліся і парадавалі шырокую грамадскасць чарговай «плынню свядомасці», якая выходзіць за ўсякія дапушчальныя рамкі логікі, не кажучы ўжо пра маральнасць.

Так, Уладзімір Жырыноўскі заклікаў павесіць Надзею Саўчанка, а таксама нацэліць расійскія ракеты на заходнія сталіцы: «Ну-ка, Шайгу, прывесці ракетныя войскі ў баявую гатоўнасць! Нацэліць на Берлін, Брусэль, Лондан, Вашынгтон! Тады яны скажуць: "Заўтра вайна? Не, не трэба, мы згодны, мы сыходзім". Яны ж жыць хочуць, разумееце?... Расстраляць гэтую Саўчанку заўтра ж! Павесіць яе ў Белгарадзе!»

Таксама сваімі выказваннямі адзначыўся ветэран руху нацыянал-бальшавікоў Эдуард Лімонаў: «Трэба падзяліць украінскую імперыю. Трэба звярнуцца перш за ўсё да палякаў! А акрамя гэтага да венграў, румынаў і славакаў. Лаўроў толькі і павінен курсіраваць ад Варшавы ў Маскву і Бухарэст, і Будапешт, і якая там сталіца ў Славакіі?» — заявіў Лімонаў на сваёй старонцы ў сацыяльнай сетцы *Facebook*.

Не адстае і акцёр Аляксей Панін: «Украінцы — вельмі добрая нацыя, але, на жаль, вельмі дурная».

Далей, як кажуць, Астапа панесла, і ён выразшаў звярнуцца персанальна да прэзідэнта Украіны Пятра Парашэнкі: «Спадар Парашэнка, я з вялікім задавальненнем сваімі рукамі перарэзаў бы вам горла... Як жа хочацца, каб рускія войскі сапраўды ўвайшлі да вас туды. Як жа мне хочацца пабачыць Львоў у агні». А завяршылася дадзеная тырада феерычнай развязкай: «Я хачу пажадаць усім дабра! Будзьце добрымі!»

**Зміцер Міцкевіч**

**У Беларусі можа пачаць вяшчанне тэлеканал *Ukraine Tomorrow***

Улетку ў Беларусі пачнецца вяшчанне тэлеканала «Украіна заўтра» (*Ukraine Tomorrow*, украінскі адказ расійскаму тэлеканалу *Russia Today*). Пра гэта заявіў міністр інфармацыйнай палітыкі Украіны Юрый Стэць у эфіры грамадска-палітычнага ток-шоу на тэлеканале АНТ. Па словах украінскага міністра, ён знаходзіцца ў пастаянным узаемадзеянні па гэтым пытанні з беларускай калегай, міністрам інфармацыі Ліліяй Ананіч. Але ён адзначыў, што бакі павінны ўзгадніць неабходныя дакументы.

**«Вялікая сямёрка» сустрэлася ў Баварыі**

Прэзідэнт ЗША Барак Абама і канцлер Германіі Ангела Меркель зрабілі супольную заяву наконт таго, што санкцыі супраць Расіі павінны заставацца ў сіле да таго часу, пакуль не будуць выкананыя Мінскія пагадненні аб спыненні агню.

«Лідары дзвюх краін абмяркавалі крызіс ва Украіне і сышліся на тым, што працягласць дзеяння санкцый павінна быць дакладна ўвязана з поўным выкананнем Расіяй Мінскіх пагадненняў і павагай да суверэнітэту Украіны», — гаворыцца ў заяве Белага дома, апублікаванай пасля сустрэчы Барака Абамы і Ангелы Меркель на саміце «Вялікай сямёркі» на баварскім альпійскім курорце.

# Па слядах Пастаялкі. Як Васіль Жарко

Гісторыя жыцця чыноўніка, які даўжэй за ўсіх затрымаўся на пасадзе міністра.

Міністр аховы здароўя ў Расіі — неўролаг Веранiка Скварцова. Яна член-карэспандэнтка Расійскай акадэміі медыцынскіх навук і аўтарка больш за 400 навуковых работ, прысвечаных барацьбе з інсультамі.

У Польшчы такую ж пасаду займае педыятр Барташ Арлуковіч. Ён пайшоў у прафесійную палітыку, а да таго працаваў у клініцы дзіцячай анкалогіі і скончыў прыватную медыцынскую практыку некалькі гадоў таму.

Украіна, якой жыццёва неабходныя змены ў сістэме аховы здароўя, запрасіла на пасаду міністра Аляксандра Квіташвілі. Гэты грузінскі менеджар правёў рэформы ў сябе на радзіме і цяпер спрабуе рэалізаваць іх ва Украіне.

Іх беларускі калега Васіль Жарко ў свой час з цяжкасцю, з другой спробы, паступіў у медуніверсітэт. Апошні раз ён меў медыцынскую практыку яшчэ за савецкім часам. У электронным каталогу Нацыянальнай бібліятэкі няма ніводнага ўзгадвання пра ягоныя індывідуальныя навуковыя даследаванні і адкрыцці. Затое пры высокай пасадзе Жарко ажно з 2006 года — найдаўжэй сярод цяперашніх лукашэнкаўскіх міністраў.

### «Як бы ў міністэрства прабіцца?»

Род Жарко паходзіць з вёскі Леснікі, гэта паўночны край Драгічынскага раёна.

## На ахову здароўя сёлета выдзелена 4,58% выдаткаў бюджэту Беларусі

Бацькі Васіля працавалі ў калгасе, а іх дзіця-выдатнік на дзіва суседзям цягнулася да ведаў — тыповы пачатак гісторыі для беларускіх чыноўнікаў.

У сям'і Івана і Ганны Жарко раслі трое сыноў, Васіль быў малодшым.

«Памятаю, сцялілі лён, а Васіль дапамагаў маме і кажа: «Я ўсё думаю, як бы ў міністэрства прабіцца?» Малы яшчэ быў, у восьмым класе», — расказвае цётка чыноўніка Лізавета.

Сярод сваякоў міністра яна засталася ў вёсцы адна. Бабуля ўсё яшчэ трымае гаспадарку, перад хатай пасуцца козы. Але Леснікі вымiраюць. Краму закрылі, вяскоўцы абыходзяцца паслугамі аўталаўкі. А будынак школы, у якой вучыўся Васіль, аддалі прадпрымальнікам пад транспартны цэх.

У 15 гадоў Васіль паехаў вучыцца ў Іўеўскі раён. У мясцовай медыцынскай вучэльні ў Юрацішках ужо займаўся ягоны брат.

У дарослым веку той нейкі час пажыў у Германіі, а пасля вярнуўся ў Беларусь. Працаваў фельчарам у Бярозе, а цяпер уладкаваўся ў тамтэйшы лядовы палац, які належыць мільянеру Юрыю Чыжу. «Можа, пра медыцыну ўжо і забыўся», — жартуе цётка.

А вось старэйшы брат будучага міністра пайшоў у тэхніку. Ён працаваў на гідраэлектрастанцыі ў Белаазёрску. Цяпер выйшаў на пенсію і пасля смерці бацькоў выкарыстоўвае родную хату як лецішча.

### Камсамолец і будаўнік

Пасля вучобы ў Юрацішках Васіля забралі ў войска. Служыць давялося ў расійскім Арэнбургу, непадалёку ад цяперашняй мяжы з Казахстанам. Жарко быў вайсковым фельчарам.

Вярнуўшыся пасля двух гадоў службы ў Беларусь, Васіль паспрабаваў паступіць у медуніверсітэт (тады Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут), але беспаспяхова. Жарко застаўся падцягваць свае веды на падрыхтоўчым аддзяленні. Дадатковыя заняткі, ды яшчэ і статус вайсковага фельчара, дазволілі яму праз год усё ж паступіць у ВНУ.

Жарко быў старэйшым за астатніх студэнтаў, і гэта дапамагло яму займець асаблівы статус. Узгадваючы поспехі будучага міністра, ягоныя аднакурснікі ўсміхаюцца і адзначаюць, што на камсамольскай ніве Васілю ўдавалася праявіць сябе значна лепш, чым у вучобе. Жарко стаў яшчэ і камандзірам будаўнічага атрада.

### Знаёмства з Пастаялкай

Адвучыўшыся ў Мінску, Васіль на год паехаў у Брэсцкую дзіцячую абласную бальніцу. Першы год пасля заканчэння вучобы медык-выпускнік трапляе ў інтэрнатуру.

Загадчыцай інфекцыйнага аддзялення ў бальніцы тады працавала Людміла Пастаялка. У гісторыі Беларусі яна застанецца найперш як маці Ірыны Абельскай, асабістай доктаркі Аляксандра Лукашэнкі.

Гэта было першае пацверджанае перасячэнне лёсу Жарко з уплывовай чыноўніцай. Але далёка не апошняе.

Падчас падрыхтоўкі артыкула да нас даходзілі чуткі, што Жарко — далёкі сваяк Абельскай.



СЯРГЕЙ ЗІНІН

На цырымонію ўзнагароджання конкурсу «Трыумф. Героям спорту — 2014» міністр прыйшоў са спявачкай Аляксандрай Гайдук.

**Васіль Жарко**

Нарадзіўся ў 1956 у в. Леснікі Драгічынскага раёна. Скончыў Юрацішкаўскую медыцынскую вучэльню (1975), Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут (1984) і Акадэмію кіравання (2008).

Працаваў памочнікам санітарнага доктара ў Івацэвічах (1977), педыятрам Брэсцкай дзіцячай абласной бальніцы (1984—1985), загадчыкам аддзялення Драгічынскай раённай бальніцы (1985—1991), доктарам-інспектарам, намеснікам начальніка ўпраўлення аховы здароўя Брэсцкага аблвыканкама (1991—2002), намеснікам галоўнага доктара дзіцячай абласной бальніцы (2002—2003), дырэктарам санаторыя «Крыніца» (2003), генеральным дырэктарам «Белпрафсаюзкурорта» (2003—2005), в.а. генеральнага сакратара Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа (2005—2006).

З 2006 — міністр аховы здароўя.

Жанаты, мае дачку.

Пацвярджэння гэтаму не знайшлося, сваякі Васіля абвяргаюць крэўную сувязь.

Чуткі маглі ўзнікнуць праз месца нараджэння Жарко. Рэч у тым, што бацька Абельскай, муж Людмілы Пастаялкі, паходзіць з вёскі Батарэя Бярозаўскага раёна. Адтуль да Леснікоў, дзе нарадзіўся Жарко, зусім блізка — каля 8 км.

Нагадаем, на пачатку 1950-х Сцяпан Пастаялка, ягоны брат Анатоль, а таксама іх бацькі былі асуджаныя на працяглыя тэрміны зняволення за «антысавецкую дзейнасць». Сям'ю вінавацілі ў дапамозе антыкамуністычным партызанам з Украінскай паўстанцкай арміі. Падрабязнасці іх гісторыі жыцця «Наша Ніва» расказвала ў №18 за 15 мая 2013 года.

### З медыка ў чыноўнікі

Як вынікае з афіцыйнай біяграфіі, у 1985-м, пасля года працы ў Брэсце, Жарко пераехаў бліжэй да малой радзімы, у Драгічын. Тут учорашні выпускнік стаў загадчыкам аддзялення раённай бальніцы.

Неўзабаве Васіль пазнаёміўся з дырэктаркай мясцовай крамы. Надзея была старэйшая за яго. Вяселле згулялі ў бацькоўскай хаце ў Лесніках. «Усе драгічынскія дактары прыехалі», — узгадвае цётка Лізавета.

У сям'і нарадзілася дачка Вольга.

Праца ў Драгічыне была апошнім месцам, дзе Жарко быў звязаны з практычнай медыцынай. У 1991 годзе ён перабраўся ў Брэст і ўладкаваўся ў чыноўніцкую структуру. Ва ўпраўленні аховы здароўя аблвыканкама Жарко спачатку працаваў доктарам-інспектарам, а пасля ўзняўся да намесніка начальніка.

У 2001 годзе ў жыцці Ірыны Абельскай адбыліся перамены. Замест статуса асабістай доктаркі Аляксандра Лукашэнкі яна атрымала пасаду галоўнага доктара Рэспубліканскага клінічнага медыцынскага цэнтра — «лечкаміссі» для чыноўнікаў і творчай інтэлігенцыі.

У тым жа годзе рушыла наперад і кар'ера яе маці. Людміла Пастаялка стала першай намесніцай міністра аховы здароўя, а праз год — міністрам.

А Васіля Жарко ўзялі ў Брэсцкую дзіцячую абласную бальніцу (адкуль толькі што з'ехала Пастаялка) намеснікам галоўнага доктара. За што ён адказваў на новай пасадзе? Паводле інфармацыі з інтэрнэту, у тым ліку за грамадзянскую абарону і мабілізацыю.

Галоўным доктарам у бальніцы тады быў Ігар Ласіцкі. Цяпер ён — намеснік Жарко ў міністэрстве.

### Пераезд у сталіцу

У 2003 годзе Жарко перабраўся ўслед за Пастаялкай у сталіцу. Пасаду яму даручылі курортную — дырэктар санаторыя «Крыніца». Прафсаюзная здраўніца на 300 чалавек знаходзіцца на беразе возера ў Ждановічах, зусім блізка ад Мінска. «Крыніца» спецыялізуецца на лячэнні сэрца, страўніка, а таксама хворых на цукроўку. Санаторый дагэтуль карыстаецца попытам сярод чыноўнікаў.

Жарко затрымаўся ў «Крыніцы» ўсяго на некалькі месяцаў. Неўзабаве яго перавялі па службовай іерархіі наверх, кіраваць «Белпрафсаюзкурортам». У падпарадкаванні арганізацыі знаходзіцца 12 санаторыяў розных профіляў, раскіданых па ўсёй Беларусі.

Прафсаюзная праца найчасцей становіцца канцом для кар'ернага росту чыноўнікаў. На гэтых няпыльных пасадах яны сустракаюць пенсію і перадаюць месца наступным адстаўнікам. Але для Жарко гэта была толькі прыступка для скачку наверх.

Цікава, што ў Мінск ён перабраўся адзін, без сям'і. Жонка з дачкой засталіся ў Брэсце і пераехалі ў сталіцу толькі праз чатыры гады.

Вольга скончыла гістарычнае аддзяленне брэсцкага ліцэя, а ў 2007 паступіла на факультэт міжнародных адносінаў БДУ. Праўда, працаваць па



Родную хату міністра выкарыстоўвае старэйшы брат у якасці лецішча.

# зрабіў кар’еру міністра аховы здароўя

спецыяльнасці ёй пакуль не давялося. Яшчэ падчас вучобы яна выйшла замуж і нарадзіла сына. Праз некалькі гадоў у сям’і нарадзілася яшчэ і дачка.

### Аперацыя Чырвоны Крыж

Беларускае таварыства Чырвонага Крыжа — адна з самых масавых грамадскіх арганізацый краіны, у яе запісана больш за 1,3 мільёна чалавек.

Падчас развалу СССР арганізацыю на доўгія гады ўзначаліў стаматолаг Антон Раманоўскі. Чырвоны Крыж займаўся гуманітарнай дзейнасцю і размяркоўваў замежную дапамогу, у тым ліку «чарнобыльскую». У сярэдзіне 1990-х Раманоўскі абраўся ў Вярхоўны савет, а пасля перайшоў у палату прадстаўнікоў, падтрымаўшы Аляксандра Лукашэнку.

У новым стагоддзі вецер задзьмуў па-іншаму. У 2004-м старшынёй Чырвонага Крыжа была абраная Людміла Пастаялка, якая пры гэтым захоўвала пасаду міністра аховы здароўя. За Раманоўскім заставалася выканаўчая ўлада ў арганізацыі.

Праз год «Советская Белоруссия» апублікавала гнеўны матэрыял, прысвечаны Службе катастроф, якая была створаная пад эгідай Чырвонага Крыжа. Гэтае падраздзяленне з 20 валанцёраў запрацавала толькі на паперы. А сам Раманоўскі адмовіўся сустракацца з карэспандэнтам прэзідэнцкай газеты.

Пракуратура пачала праверку, была заведзеная крымінальная справа за безгаспадарлівасць і крадзеж маёмасці. Пастаялка адхіліла Раманоўскага ад пасады. Хто быў абраны на ягонае месца? Верны Васіль Жарко.

### Вяршыня кар’еры

У канцы 2005 года Людміла Пастаялка сышла з урада. Чыноўніца цяжка хварэла і заняла пасаду сенатара ў савеце рэспублікі.

Праз некалькі месяцаў міністрам аховы здароўя быў прызначаны Васіль Жарко. Першы год працы ён адмоўчваўся — ніводнага інтэрв’ю, ніякіх выступаў на прэс-канферэнцыях. З цягам часу ўпэўненасці стала больш.

Вось толькі Міністэрства аховы здароўя пры Жарко стала самым закрытым ведамствам краіны. Паказальнай была сітуацыя з эпідэміяй свінога грыпу ўвосень 2009 года.

Насельніцтва ў паніцы скупляла лекі ў аптэках, а міністэрства па-ранейшаму рапартавала: сітуацыя знаходзіцца пад кантролем. За дзень да афіцыйнага абвяшчэння эпідэміі Жарко сцвярджаў у парламенце, што дастаткова абмежавальных мераў. Маўляў, людзі паміраюць ад пнеўманіі, а не ад свінога грыпу.

### Дзіўнае размеркаванне

Лістапад 2009 года стаў надзвычай складаным для міністра. Жарко апынуўся ў цэнтры скандалу з размеркаваннем.

Адносіны з запатрабаваным хірургам, рэктарам медуніверсітэта Паўлам Беспальчуком у яго не скláліся здаўна. Жарко прапаноўваў рэктару сысці з пасады па ўласным жаданні, аднак

## Сярэдні заробак ў медыцыне ў красавіку — 5 306 225 рублёў «бруднымі» ($367)

той адмовіўся. А калі скончыўся кантракт, на развітанне ляснуў дзвярыма.

Ва ўніверсітэцкай газеце з’явіўся артыкул, у якім Беспальчук выкрываў карупцыю пры размеркаванні выпускнікоў. Камісію, якая вырашала, куды накіраваць маладых спецыялістаў, узначальваў асабіста Жарко.

«Выпускнік, які ідзе па чарзе 377 з 408 лечфакаўцаў з балам 6,14 накіраваны ў прэстыжны Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр працаваць хірургам, хоць навучаўся па тэрапеўтычным профілі... «Мэтавічцы» з Брэсцкай вобласці, якая не мае ні мужа, ні дзяцей, ні якіх-небудзь іншых законных абставінаў, міністрам дэманстратыўна скасоўваецца мэтавая дамова і вызначаецца месца ў цудоўнай клінічнай бальніцы Мінска», — прыводзіў прыклады Беспальчук.

«Чаму выпускніца П. з Гродзенскай вобласці павінна выплаціць ... 36,2 мільёна рублёў, а ў дзвюх яе аднакурсніц Г. і П. з Брэсцкай вобласці ў асабістых справах захоўваюцца заявы аб скасаванні мэтавых дамоў «у сувязі з рашэннем міністра» і абедзве пакінутыя працаваць у Мінску зусім бязвыплатна?» — задаваў рытарычнае пытанне ён.

«Упершыню за ўсю гісторыю ВНУ тыя, хто ажыццяўляў размеркаванне, адмовіліся ставіць свае подпісы пад ведамасцю», — падсумоўваў рэктар.

На наступны дзень пасля выхаду газеты Беспальчук перастаў быць рэктарам. Жарко застаўся пры пасадзе.

### Не пагадзіўся з прапановай Лукашэнкі

Насельніцтва мае шмат прэтэнзій да Васіля Жарко як галоўнага медыка краіны (глядзі матэрыял ніжэй). Чэргі ў паліклініках, недахоп спецыялістаў, дарагія лекі, навязванне неэфектыўных прэпаратаў беларускай вытворчасці... Летась дадалася новая бяда — рэцэпты.

З кастрычніка 2014 года набыць лекі стала складаней. «Змаганне з самалячэннем» прывяло да ажыятажу ў аптэках і павелічэння нагрузкі на дактароў.

Пабачыўшы незадаволенасць насельніцтва, Аляксандр Лукашэнка даў магчымасць Васілю Жарко «адступіць». «Не трэба баяцца прызнаць памылку з прыняццем рашэння, — параіў Лукашэнка. — Калі вы здзяйсняеце нейкія дзеянні, вы ж спачатку людзям раскажыце. І адначасова! А не потым, калі ўсе людзі ў чарзе ўсталі і штурмуюць аптэкі і паліклінікі». Але міністр не адступіў. Рашэнне засталося ў сіле.

У той ж час медыкі адзначаюць, што ў цэлым пры Жарко праца міністэрства стала больш стабільнай і прадказальнай. Часы хаатычных дзеянняў Людмілы Пастаялка ў мінулым. Прынятыя пастановы лагічныя і зразумелыя.

Чаго не хапае спецыялістам, дык гэта годных заробкаў. Паводле дадзеных Белстата за красавік 2015 года, у сярэднім па галіне работнік атрымаў на рукі $315 «чыстымі». То тут, то там медыкі патрабуюць павелічэння заробкаў, але ў арганізаваны рух іх памкненні не перарастаюць. Дзяржава «адкупляецца» невялікімі даплатамі, але кардынальна вырашыць пытанне можна.

Сам Жарко на здароўе не скардзіцца. «Не п’ю алкаголь, штодня здзяйсняю гадзінны шпацыр, стараюся не пераядаць. Садавіна і гародніна на стале штодня. Абмяжоўваю сябе ў мясе, імкнуся часцей есці рыбу. Салодкага не ем, ад цукру адмовіўся, як і ад курэння, валявым рашэннем», — дзяліўся ён сакрэтам здароўя.

**Адар’я Гуштын, Ягор Марціновіч**

**Гучныя заявы міністра Жарко**

- «Я прашу і прымушаю: на дзвярах участковага тэрапеўта павінен вісець нумар мабільнага тэлефона, каб жыхар мог звярнуцца».
- «У раённых стацыянарах 90% лекавых сродкаў — беларускія. У рэспубліканскіх цэнтрах — больш за 50%. І грамадзяніна вылечваюць! Значыцца, лекі паказваюць сваю эфектыўнасць».
- «У гэты няпросты крызісны год кожны з медыкаў разумее, што даваў клятву Гіпакрата. І працуе не за грошы. А па сумленні і сваім пакліканні».
- «Мы абмежавалі самалячэнне, бо ўбачылі: грамадзяне ў аптэку пачалі хадзіць як у краму. Дома ў кожнага — цэлыя аптэчныя кіёскі».
- «У 2013 годзе чэргаў у паліклініках не будзе», сакавік 2011. «Чэргі ў беларускіх паліклініках знікнуць да 2014 года», чэрвень 2012.



Васіль Жарко (у цэнтры) падчас адкрыцця інтэрната Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта ў студэнцкай вёсцы.

## «Трэба займаць чаргу ад шостай раніцы, каб трапіць да доктара»

Людзі стаяць у чарзе па талоны ў мінскую паліклініку №15 ад самага ранку. За паўгадзіны да адкрыцця на прыступках збіраецца больш за паўсотні чалавек.

«Па тэлебачанні кажуць, што ў нас усё цудоўна, можна анлайн ці па тэлефоне замовіць талон. А ў выніку стаім з шостай раніцы, каб трапіць да неўролага», — скардзіцца адна з жанчын у натоўпе.

«А што рабіць? — адказвае ёй другая. — Новых дактароў сюды трэба садзіць ці рабіць папяровыя запіс».

Але нават адстаяўшы ў чарзе, многія застаюцца без талонаў. Запісацца да доктара ўсе ахвотныя не могуць. Вакол паліклінікі будуюцца новыя шматпавярховікі, пацыентаў становіцца ўсё больш.

«Я хажу ўжо цэлы месяц, каб узяць талон да неўролага. Стаю на ўліку, а ўзяць так і не магу, — скардзіцца жанчына сталага веку. — Адчуваецца, што ёсць недахоп спецыялістаў. Яны то на курсах, то ў адпачынку, то доктар працуе без сястры... І ў саміх дактароў зашмат папяровай працы, хоць цяпер з’явіліся камп’ютары».



«Даўно хацелі сказаць нашым уладам: колькі ж гэта можна цягнуць, каб такая маленькая паліклініка была на такі вялікі раён!» — дадае яшчэ адзін пацыент з чаргі.

А сёмай дзверы паліклінікі адчыняюцца, і натоўп штурмуе рэгістратуру. Праз некаторы час на ганку з’яўляецца намеснік галоўнага доктара паліклінікі.

«У нас абмежаваная колькасць талонаў, як і ў любой паліклініцы, гэта ж не беспамерная ўстанова. Вось, збіраюцца, дзякуй богу, будаваць новую ў 2017 годзе».

Тым часам з будынка выходзіць яшчэ адна жанчына, якой таксама не хапіла талона да таго ж неўролага.

«І на сёння, і на заўтра ўжо ўсё распісанае, — скардзіцца яна. — У мяне сэрца хворае, я ледзь прыйшла, а талона няма. Трэ’ было раней чаргу займаць, гадзін з шасці, можа, і трапіла б да доктара. Хай бы хоць таблеткі выпісалі, была б хоць якая палёгка. А так нічога няма».

**Настасся Хралові́ч, Ірына Арахоўская**





# «Справа прынцыпу» без прынцыпаў

Карэспандэнт «НН» пабываў на ток-шоу Вадзіма Гігіна і пранік у закулiссе. Піша **Улад Швядовіч**.

Каб даведацца, як можна схадзіць паглядзець на Вадзіма Францавіча і кампанію, я патэлефанаваў на гарачую лінію АНТ. Слухаўку ўзяла ветлівая дзяўчына, якая скіравала мяне ў сацсеткі: маўляў, запісвацца трэба «Укантакце», праз суполку «Масоўка Мінск». У суполцы трэба было звярнуцца да Алены Віктараўны. Ну што ж, масоўка, дык масоўка.

Суполка знайшлася ў два клікі. Тая самая Алена Віктараўна была там чамусьці пазначана як «мамка». З апісання суполкі было зразумела, што ў ёй набіраюць статыстаў у фільмы і серыялы, якія здымаюцца ў Мінску. Пачуўшы, што я хачу наведаць у якасці гледача ток-шоу «Справа прынцыпу», Алена Віктараўна без усякіх пытанняў накіравала мяне да нейкай Наталлі. Наталля, у сваю чаргу, спытала толькі пра век.

«28», — нясмела сказаў я праўду. Здаецца, яе задаволіла. Ва ўсякім выпадку Наталля адразу пачала запісваць мае пашпартныя дадзеныя. Па яе словах, гэта патрэбна было для аплаты. Тут я трошкі захваляваўся: ток-шоу, канечне, рэч цікавая, але плаціць за прагляд Гігіна — сумнеўнае задавальненне. Аказалася, што плаціць гледачам. «Ого, — падумаў я, — зажыву!»

«І вазьміце гальштук, — сказала на развітанне Наталля. — Яны просяць, каб у гальштуках былі».

## 175 тысяч

Калі тэатр пачынаецца з вешалкі, то тэлебачанне, мяркуючы па ўсім, пачынаецца з пашарпанага фае ў Доме афіцэраў вайсковага гарадка Уручча.

Збор масоўкі быў прызначаны а палове на дзясятую, у пятніцу. Перадача запісваецца перад выхаднымі, у гэты раз здымалі адразу два выпускі. Народ паціху падцягваўся, рабочыя з вясёлымі мацюкамі насілі мэблю і абсталяванне. «Гледачы» былі абсалютна разнастайныя.

Я чакаў, што прыйдуць у асноўным студэнты і пенсіянеры, яны былі, але не так шмат. Хапала і добра апранутых людзей сярэдняга веку, і тых, хто відавочна прыйшоў хоць нешта зарабіць.

Хутка з'явілася і сама Наталля. Натоўп ажывіўся. Спачатку трэба было падысці да яе і пацвердзіць свой прыход. Праўда, ніякіх дакументаў ніхто не правяраў. Потым чакаць, пакуль памочнік не выгукне тваё прозвішча і не выдасць дамову. У чаканні папераў людзі дзяліліся на групкі і нягучна гутарылі. Заўважна было, што большасць адзін аднаго ўжо ведае.

«Наўрад ці здымкі пачнуцца раней за 11», — уздыхала стомленая жанчына.

«Іваноў!» — выклікаў памочнік Наталлі.

«Вось быў я на запісе музычнай перадачы, — расказваў свайму пажылому сябру акуратны дзядуля. — А з моладзі там — Саладуха з Ціхановічам».

«Пятроў!» — крычаў памочнік.

«Дык я сюды хаджу, бо жыву за пяць хвілін пехатою», — даверліва паведаміў дагледжаны жанчыне чалавек са смешнымі бакенбардамі.

«Сідараў!!!» — прароў памочнік.

Паціху дайшла чарга і да мяне. Я атрымаў паперу, на якой было напісана «Дамова падраду № ...». Нумар не быў прастаўлены.

За васьмігадзінны працоўны дзень мне прапанавалі 175 тысяч рублёў. Гадзіна працы гледачом каштавала 21 250 рублёў. Не надта разгуляешся.

Я прагледзеў дамову яшчэ раз — і вырашыў яе не падпісваць. Па-першае, ні подпісу намесніка старшыні праўлення ЗАТ «Другі нацыянальны канал», ні якіх-небудзь пячатак на дамове не знайшлося. Па-другое, паведамлялася, што дамова заключаецца ў двух асобніках, але мне далі толькі адзін. І па-трэцяе, маё імя па бацьку было памылкова пазначана як «Ціханавіч».

«Чорт з імі, з грашыма, — падумаў я. — Ціханавічам не буду!»

І засунуў паперу ў кішэню — на памяць.

## Якая тэма перадачы?

Тым часам астатнія хуценька распісваліся і вярталі свае дамовы арганізатарам. Да пачатку здымак было яшчэ доўга. Кожны бавіў час як мог. Ні пра якую гарбату ці каву не было нават гаворкі. Не было нават куды прысесці.

Я выйшаў на ганак праветрыцца. Аб'явы на дзвярах старога Дома афіцэраў запрашалі зрабіць тэрміновае фота, заключыць страхавую дамову ці наведаць краму з адзеннем. Побач стаяў адзін з гледачоў у залатой кашулі і меланхалічна жаваў сухарыкі. Непадалёку бадзяліся два вялікія бяздомныя сабакі. Ля самага ганка быў прыпаркаваны вялізны чорны «Ягуар». Адзін з сабакаў абнюхаў яго колы і каля аднаго з іх задраў нагу. На ганак выйшаў дзядуля, дастаў з поліэтыленавага пакета два гальштукі, шэры і чорна-чырвоны, прыклаў іх да кашулі і спытаў у першых жа жанчын: «Які лепшы?» Пасля нядоўгага абмеркавання вырашылі, што шэры.

«Як да шлюбу!» — сказала адна з экспертак.




Дзядуля з неахвотай пагадзіўся.

Стомленая прадказальніца не памылілася, запускаць у павільён пачалі каля адзінаццатай. Па дарозе я пацікавіўся ў іншых статыстаў, якая будзе тэма перадачы. Ніхто не ведаў.

## Рассадка

Людзей запусцілі ў вялікую залу, зацягнутую чорнай тканінай. На ўваходзе стаяў стол, побач з ім — вялікая плазма. На ёй ішоў кінафільм Джыма Джармуша «Выжывуць толькі палюбоўнікі» з выключаным гукам. Збоку стаяла доўгая вешалка, як у гардэробах, толькі без нумаркоў. Там прапанавалася пакідаць вопратку і торбы.

У цэнтры, ізноў жа агароджаным тканінай, была тая самая пляцоўка, якую відаць у тэлевізары, з крэсламі для гасцей і сувядучага, вялікімі экранамі. Абапал — дзве трыбуны літарай «Г» з вузкім праходам між імі. Менавіта адтуль з'яўляецца Гігін у пачатку праграмы.

Высветлілася, што сесці абы-куды не ўдасца. Размеркаваннем гледачоў дзелавіта займалася мілавідная дзяўчына разам з суворым ахоўнікам. Саджаць стараліся так, каб разбавіць мужчын жанчынамі, а светлыя плямы адзення — цёмнымі. Дзве дамы ў ружовым адразу былі адпраўленыя ў розныя канцы трыбуны. Не надта прэзентабельныя, на думку дзяўчыны, гледачы — уверх, хто больш спадабаўся, — наперад, у ніжнія шэрагі.

Нарэшце, рассадка скончылася. Усім раздалі пульты — планавалася, што з іх дапамогай гледачы выказваюць сваё меркаванне наконт выступу таго ці іншага госця. Праўда, як карыстацца тымі пультамі, ніхто не патлумачыў, дый самі яны былі даволі дзіўныя — звычайныя, з лічбамі ад 1 да 0, нібыта ад тэлевізара. На тым месцы, дзе звычайна знаходзяцца гузікі гуку, наклеена чорная паперка, пад якой бачныя пустыя гнёзды ад гэтых кнопак. А накрыўку аддзела з батарэйкай чамусьці заклеілі шэрай ліпкай стужкай. Я адразу аддзёр яе — батарэйка была на месцы.

## Раз'юшанага Гігіна выразалі

Пачаліся здымкі. Ізноў абмяркоўвалі Украіну. У якасці экспертаў былі запрошаныя журналісты Аляксандр Класкоўскі і Арцём Шрайбман, дырэктар BISS Аляксей Пікулік, дэпутат палаты прадстаўнікоў Валеры Барадзеня, аглядальнік лукашэнкаўскай газеты «Рэспубліка» Усевалад Шымаў ды іншыя. Праз скайп звязваліся з міністрам інфармацыйнай палітыкі Украіны Юрыем Стэцем, прадстаўнікамі «Блока Парашэнкі» і скептычна настроенымі да сённяшняга кіраўніцтва Украіны расійскімі журналістамі, гаварылі па тэлефоне з прадстаўніком ДНР.

Забягаючы наперад, варта адзначыць — амаль нічога ў фінальнай ТБ-версіі не выразалі. Хіба акрамя моманту, калі Гігін літаральна ўзвіўся. На прапанову Класкоўскага ўявіць на месцы Украіны Беларусь, напрыклад, з Магілёўскай Народнай Рэспублікай, вядучы пракрычаў: «Перастаньце несці гэтую бязглуздзіцу!»

Падчас гутаркі графік на экранах адлюстроўваў падтрымку аўдыторыяй таго ці іншага меркавання. Графік мяняўся імкліва, прыгожа, але... трошкі прыгледзеўшыся, я заўважыў, што пульты статыстаў асабліва не зацікавілі. Падчас запісу 99% тых гледачоў, чые рукі я бачыў, да пультаў нават не дакрануліся. Тым часам іх меркаванне на экране змянялася ў адзіным патрыятычным рытме: калі нехта з экспертаў выказваўся аб суверэнітэце і незалежнасці нашай дзяржавы, гледачы нібыта выказвалі яму сваю падтрымку. Але як толькі хтосьці гаварыў пра расейскія войскі ва Украіне ці пачынаў вінаваціць у канфлікце Пуціна — большасць аўдыторыі нібыта адразу паказвала сваю незадаволенасць такой дзёрзкасцю.

## Пульты: як яны працуюць?

Падзівіўшыся, я і сам патыкаў у свой пульт. На экране гэта ніяк не адбілася. Тады я ціхенька ўзяў пульты сваіх суседак і пачаў націскаць кнопкі на ўсіх трох прыладах адначасова. Колькасць згодных-нязгодных не змянілася ані на працэнт.

Я вырашыў пракансультавацца ў адной са сваіх суседак. Дагледжаная пажылая дама, яна нават прынесла з сабой спецыяльную падушачку з леапардавым узорам, каб зручней сядзець. Было зразумела, што гэта не першы яе візіт на перадачу.

«Яны наогул працуюць?» — спытаў я пра пульты.

Мая суседка хіхікнула і адмахнулася.

Тым часам першая частка праграмы падышла да канца. Аб'явілі кароткі перапынак.

«72 чалавекі са 100 пагадзіліся з Класкоўскім, калі ён папярэдзіў, што інфармацыйная вайна пагражае і Беларусі, — абвясціў перад паўзай сувядучы Вячаслаў Бандарэнка. — А антыгерой — Юрый Стэць, 74 чалавекі былі не згодныя з ім, калі ён загаварыў аб расійскіх войсках ва Украіне».

Ну-ну.

## А зараз — «Апладысменты»

У перапынку мая суседка паспела з'есці памідорку. Адначасова яна гучна абуралася каментарамі Класкоўскага: «Вось колькі ні хаджу, усё ён крытыкуе і абураецца! Усё яму не падабаецца!» Мужчына, які сядзеў побач, з ёй не пагадзіўся.

«А вы зайдзіце на завод! Схадзіце паглядзіце, якія там заробкі! Зараз уся нашая эканоміка накрываецца, — сказаў ён. — Патрэбныя рэформы, перамены! І ўладу трэба мяняць!»

«На каго? — пагардліва спытала жанчына. — На такіх, як гэты?»

Далей працягвалася ў тым жа духу. Пасля дзяржаўнай рыторыкі — «шчырыя» апладысменты, якімі кіравала тая ж дзяўчына, якая займалася рассадкай. Калі хтосьці прагаворваў нешта асабліва патрыятычнае, заўважаў недахопы сённяшняй украінскай улады ці, як Гігін, цытаваў Лукашэнку, яна ўздымала над галавой вялікую таблічку з надпісам «Апладысменты» — і аўдыторыя імкліва рэагавала. У таблічкі чамусьці быў адбіты ніжні вугал.

«Пультавая таямніца» раскрылася ў канцы. Госці сышлі, а «гледачы» засталіся. Яны павінны былі дапрацаваць невялікі кавалак. Спачатку некалькі разоў здымалі апладысменты («Дайце мне зацікаўленыя твары!» — патрабаваў голас рэжысёркі аднекуль са столі), а потым дайшлі і да пультаў. Спачатку іх трэ' было проста патрымаць, гэта знялі, а потым загадалі і патыкаць у кнопкі.

«Націскаем, націскаем!» — камандаваў нябачны голас. Людзі ўзялі пульты і паслухмяна пачалі выконваць каманду. Я паглядзеў на мужчыну, які казаў пра неабходнасць пераменаў. Ён, так жа як і ўсе астатнія, засяроджана глядзеў на пустую сцэну, трымаючы ў руцэ пластыкавы пульт. Пальцы паслухмяна націскалі на кнопкі, якія ні на што не маглі паўплываць.



Упершыню за доўгі час праваслаўныя ўступілі ў публічны канфлікт з каталікамі.

# Крыжовы паход белавежскага бацюшкі




У пасёлку Белавежскі (Камянецкі раён) каталікі паставілі крыж побач з праваслаўным. Чатырохканцовы побач з шасціканцовым. Крыж — ён і ў Афрыцы крыж. Але асобныя праваслаўныя ўзвіліся на дыбы. Кажуць, крыж быў усталяваны без дазволу ўладаў. Мы патэлефанавалі ў Белавежскі праваслаўнаму айцу Аляксандру Сычэвічу, каб з першых з вуснаў даведацца аб сутнасці канфлікту. Ён сам родам са Столінскага раёна, а ў Белавежскім служыць два гады.

**«Наша Ніва»: Айцец Аляксандр, раскажыце, адкуль гэты канфлікт з каталіцкім крыжам пачаўся, дзе яговыя карані?**

**Аляксандр Сычэвіч:** Даўно ўсё гэта пачалося. Каталікі і самі кажуць, што крыж гэты хацелі паставіць яшчэ ў студзені 2014 года. Што я дакладна магу вам сказаць, дык гэта апошнія дзён дзесяць, пасля таго, як крыж без узгаднення са свецкімі ўладамі быў усталяваны, пачаўся разлад. Хаця сур'ёзнага разладу няма, страшнага нічога не адбылося. Хай стаіць крыж, калі ім так хочацца, калі ёсць на тое згода ўладаў.

**«НН»: У паведамленнях Вы паўстаеце як галоўны працаўнік гэтага крыжа.**

**АС:** Не, ну я выступаў... У нас быў сход жыхароў пасёлка, дзе мы павінны былі вырашыць, ці будзем мы ставіць каталіцкі крыж. Ведаеце, мне само пытанне незразумелае. Як мы можам гэта вырашаць, калі крыж ужо стаіць, правільна? А па-другое, канфесій у наш час шмат, рэлігій шмат, кожны можа верыць у таго Бога, у якога хоча. Але справа ў тым, каб пазбегнуць канфліктаў, сварак, нам трэба выконваць не толькі царкоўныя законы, але і свецкія, каб не было свавольства.

На сход мы прыйшлі толькі дзеля таго, каб прагаласаваць, што наш крыж павінен стаяць, а каталіцкі, калі пытаюцца наша меркаванне, то ставіць былі не павінны. Няма канкрэтнай прычыны для таго, каб крыж быў усталяваны. А тое, што ёсць нейкая грамада, ёсць каталікі, то калі ласка. Няхай узгадняюць, няхай моляцца. Галоўнае — каб вайны не было.



**«НН»: А Вы хочаце чаго: каб крыж спілавалі, выкапалі?**

**АС:** Не, не. Яго пілаваць не трэба. Ён жа ў завесах на балтах, зняць яго можна ды прывезці да касцёла паставіць. Ніхто ні ў якім выпадку крыжы ламаць не будзе.

**«НН»: У прыклад Белавежскаму ставяць Высокае, дзе праваслаўны і каталіцкі крыжы стаяць побач і нікому гэта не замінае.**

**АС:** Там ёсць касцёл, там ёсць карані каталіцтва. Гэты крыж там сапраўды павінен быць. А калі крыж у Белавежскім прынёс такі вялікі разлад, прынёс нянавісць, хіба гэта на дабро? Не, я лічу, што не на дабро. Трэба рабіць мірным шляхам, каб стаяў ён на славу Божую, а не для канфлікту.

**«НН»: Вы казалі, што ў Белавежскім 90% жыхароў — гэта праваслаўныя.**

**АС:** Гэта я так падлічыў. У нас каля 3000 жыхароў пасёлка. У ксяндза спытаўся, колькі ў яго тут прыхаджан, ён адказаў, што каля 20 сем'яў. Я ведаю, што ёсць 5 баптыстаў, 10 сведкаў Іеговы, ёсць адна сям'я мусульман. Ну я прыкінуў, што 90% — праваслаўныя.

**«НН»: Але ж уцаркаўлёных, мабыць, мала.**

**АС:** Так, уцаркаўлёных мала. Але нават калі яны не прыходзяць на службу ў нядзелю, то прыходзяць на святы, каб асвяціць, пахрысціць, адпець. Па патрэбах ходзяць у царкву. Прыхаджан стабільных у нас чалавек 100. Але і астатнія даволі веруючыя людзі.

**«НН»: У райвыканкаме кажуць, што канфлікт высмактаны з пальца.**

**АС:** На сходзе было 80 чалавек. Я на сайтах чытаў, што напісалі: «Каталіцкая паства пакінула сход». Ну гэта няпраўда! Пакінулі якраз праваслаўныя. Можа, і выйшлі дзеля правакацыі 1—2 каталікі. Сход жа, па сутнасці, быў правакацыйным. Там было каталіцкае польскае тэлебачанне, былі прадстаўнікі каталіцкай газеты. Гэта, я лічу, правакацыя. Яны напісалі няпоўную праўду. Калі нехта і раздзімае скандал, то толькі іхні бок. Асабіста мне не хочацца канфлікту. Але зразумейце нас, праваслаўных: мы не хочам, каб каталіцкая вера прыходзіла рэйдарскім захопам, як яны робяць. Спачатку незаконна паставілі крыж, цяпер пішуць артыкулы выдуманыя.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

## Прэзідэнтам Латвіі стаў міністр абароны

Апошнім часам роля прэзідэнта ў Латвіі ўзрасла.

Выбары ў нашых паўночна-заходніх суседзяў праходзяць у парламенце, і першапачаткова ў агульным спісе было чатыры прозвішчы.

Выбары праходзілі так: 99 дэпутатаў Сейма (адзін, соты, не галасаваў, бо знаходзіцца пад следствам) галасуюць, выкідаючы найслабейшага, пакуль не застаецца адзін кандыдат.

За Веёніса ў апошнім туры падалі галасы 46 дэпутатаў, за былога суддзю Еўрапейскага суда па правах чалавека, нацыяналіста Левітса — 25.

У выніку ў апошні тур выйшаў Веёніс, але яму таксама неабходна было заручыцца падтрымкай 51 парламентарыя. У выніку за Веёніса прагаласавалі 55 дэпутатаў.

Райманду Веёнісу — 49 гадоў, ён нарадзіўся ў Пскоўскай вобласці Расіі (там бацька служыў у войску, а мама ў яго руская). Веёніс з адукацыі — біёлаг, быў міністрам навакольнага асяроддзя (2003—2011), са студзеня 2014 г. — міністр абароны. Выступае за большую інтэграцыю з Еўропай і НАТА.

Галоўным прыярытэтам новаабранага прэзідэнта будзе бяспека — унутраная і знешняя, у тым ліку ўмацаванне узброеных сіл і ўзмацненне прысутнасці НАТА ў Латвіі і Балтыйскім рэгіёне, а таксама ўмацаванне мяжы.

«Гэта вельмі важны час, бо сітуацыя моцна змянілася, незваротна... Бяспечная мяжа дасць магчымасць Латвіі развівацца, прыцягваць інвестыцыі, што азначае эканамічную бяспеку, якая дасць нам і сацыяльную абарону», — падкрэсліў Веёніс.

Роля прэзідэнта Латвіі апошнім часам пацяху расце. У грамадстве, асабліва пасля падзей на ўсходзе Украіны, неаднаразова казалася пра тое, што ён павінен быць больш моцнай фігурай, якая ў выпадку форс-мажору павінна ўзяць лёс краіны ў свае рукі. Таксама вядзецца дыскусія, каб прэзідэнта абіралі на ўсеагульных выбарах.

Прэзідэнт Латвіі таксама можа ініцыяваць законапраекты або вяртаць у парламент, калі лічыць іх недапрацаванымі.

Цікава, што ў фэйсбуку Веёніс пазначыў свой светапогляд як «паганец». Увогуле, ён вылучаецца пачуццём гумару. На пытанне, якім будзе яго першы крок на пасадзе прэзідэнта, ён засмяяўся: «Мусіць, вып'ем!»

Гэта ўжо пяты прэзідэнт Латвіі ад 1991 года, калі балтыйская краіна ўзнавіла незалежнасць.

**АГ**

## Знайшоўся стваральнік сайта 1863x.com

Цэлы месяц ніхто не ведаў пра лёс стваральніка сайта 1863x.com, які хаваецца пад нікам Джон Сільвер. Выказваліся самыя розныя здагадкі: ад яго арышту да таго, што хлопцу проста надакучыла гэтым займацца.

4 чэрвеня Джон Сільвер зноў пачаў пісаць у твітар. «Жывыздаровы. Давялося залегчы на дно дзішчанскае. Відаць, нехта рыхтаваў мае затрыманне. Дзякуй аграмадны ўсім, хто перажываў», — напісаў ён у сваім мікраблогу.

«Давялося разламаць усю маю тэхніку перад адыходам», — кажа хлопец. Джон Сільвер звярнуў увагу, што пасля серыі публікацый у абарону асуджанага ў Расіі беларуса Кірылы Сілівончыка на яго-ны сайт пачаліся хакерскія атакі з Расіі, а таксама «адчуў сачэнне за сабой». У выніку ён вырашыў перастрахавацца ды схавацца на месяц.

Сайт 1863x.com вылучаецца крайнім нацыяналізмам і часам радыкальнасцю, хоць і вядзецца парасейску. Ён заснаваўся як адказ на падобны расійскі праект «Спутнік і пагром». Вядзецца 1863x.com на ўмовах поўнай ананімнасці. Амаль ніхто не ведае, хто такі Джон Сільвер.

**ЗП**




**Фотафакт**

**У нідэрландскім падручніку для дзяцей Беларусь захопленая Расіяй**

Нідэрландскі падручнік для школьнікаў паказвае сітуацыю ў Еўропе: Расія ў вобразе пачвары з іклямі хоча праглынуць Украіну, якая працягвае руку па дапамогу еўрапейскім краінам. Самае цікавае на гэтай карце, што Беларусь таксама ўключаная ў склад Расіі і паказваецца як частка верхняй сківіцы пачвары.

**ЗМ**

# Слёзы і соплі: партрэты літоўцаў, якія не хочуць служыць у войску



Серыю фатаграфій, прысвечаную абавязковай службе ў войску для мужчын у Літве, якая была ўведзеная некалькі месяцаў таму, прэзентавалі літоўская актрыса і тэлевядучая Беата Тышкевіч-Хасанава разам з фатографам і студэнткай паліталогіі Нерынгай Ракашуце.

Яны выбралі 14 выпадковых мужчын ва ўзросце ад 17 да 28 гадоў і зрабілі іх фотапартрэты: мужчыны, апранутыя ў вайсковую форму, плачуць. Беата і Нерынга мяркуюць, што гэта добры спосаб, каб «паказаць, як небяспечныя гендарныя чаканні: чакаецца, што мужчына будзе рацыянальным, безэмацыйным і агрэсіўным». «Гэта вельмі важна, каб мы, як грамадства, навучылі мужчын выказваць свае эмоцыі і не навязвалі ім стэрэатыпныя архаічныя ролі», — піша спадарыня Ракашуце.

**Зміцер Міцкевіч**

# Задача на логіку прадэманстравала нелагічнасць 90% людзей

За 50 гадоў людзі **не навучыліся** вырашаць яе лепей.




Задача Ватсана, сфармуляваная ў 1960-х, дагэтуль «ламае мозг» непадрыхтаваным людзям: толькі 10% зямлян здольныя даць правільны адказ з першага разу.

Умовы задачы простыя. Чалавеку прапануецца чатыры карткі. Адзін бок пафарбаваны ў цёмны альбо светлы колер, на другім боку лічба. Дзве карткі павернутыя да чалавека лічбамі (цотная і няцотная лічбы), дзве — каляровымі бакамі (светлым і цёмным). Сцвярджаецца, што калі на адным боку карткі цотны лік, то іншы бок светлы. Колькі картак трэба перагарнуць, каб праверыць гэтае сцверджанне?

Вядома, можна перагарнуць усе чатыры карткі, але гэта не самы эфектыўны спосаб. А які эфектыўны? Адну, дзве, тры? Ці толькі чатыры, каб даведацца дакладна?

Задача Ватсана зацікавіла шэраг навукоўцаў: чаму яна такая простая, а большасць людзей яе не могуць вырашыць правільна? Даследаванні сістэм чалавечага мыслення, адказных за «нелагічнасць», вядуць дагэтуль: апошняя праца была апублікаваная ў красавіку 2015-га, праз паўсотні год пасля фармулёўкі задачы.

Мяркуецца, што цуд у самой фармулёўцы, што запускае «няправільны», але звыклы чалавеку канкрэтны алгарытм мыслення, замест «правільнага» для задачы абстрактнага мыслення.

Калі тую самую задачу сфармуляваць не пра карткі, а пра пошук паліцыяй непаўнагадовых наведнікаў бараў, на яе дадуць правільны адказ 75% людзей. Так што калі не спраўляецеся з карткамі, проста не думайце пра карткі.

**Аляксандр Арсёнаў**

**Адказ:** дзве, цотную і цёмную. Чаму? Шукайце на nn.by.

# За банкноту ў 5 000 рублёў зноў гатовыя заплаціць шалёныя грошы

У канцы кастрычніка на беларускай інтэрнэт-пляцоўцы *Ay.by* адбыліся таргі, якія атрымалі грамадскі рэзананс. За беларускую банкноту наміналам 5000 рублёў серыі АГ калекцыянеры былі гатовыя заплаціць 1580$, пазней гэтая банкнота была прададзеная на расійскім аўкцыёне за 2092$.

Некалькі дзён таму на беларускім інтэрнэт-аўкцыёне была выстаўлена на таргі пятая вядомая банкнота 5000 рублёў рэдкай серыі АГ. За два дні стаўкі за гэтую банкноту дасягнулі ўжо 10 мільёнаў рублёў, піша *belbonistica.com*.




Наогул рэдкіх беларускіх банкнот няшмат. Большасць банкнот (у тым ліку і рэдкіх) маюць калекцыйную каштоўнасць толькі ў выпадку бездакорнай захаванасці (UNC) — атрымаць такую банкноту на здачу немагчыма.

Але акрамя 5000 АГ ёсць яшчэ 7 беларускіх банкнот, якія зацікавяць калекцыянераў і ў пакамечаным стане:

1000 рублёў 2000 серыя ЧЛ
10000 рублёў 2000 серыя РЗ
500 рублёў 2000 серыя Ме
500 рублёў 2000 серыя Чэ
10 рублёў 2000 серыя ЛТ
20 рублёў 2000 серыя Кг

Кошт гэтых банкнот у прымальным стане ад 50.000 да 200.000 рублёў.

**Выпадак з жыцця**

# Як «Пагоня» зрабіла мяне вялікім артыстам



Піша **Віктар Шукеловіч.**

Гэта была першая палова 90-х, калі ў нас былі бел-чырвона-белыя падручнікі па гісторыі. У нашую вясковую школу мусілі з'ехацца важныя настаўнікі з усяго раёна. У школе запанаваў вэрхал. «Аёй, трэба добра падрыхтавацца да сустрэчы», — лямантавала адна мажная настаўніца, якая адмыслова да гэтай падзеі пафарбавала валасы ў руды колер.

Завуч папрасіла мяне прачытаць верш на канцэрце, які меліся даць у гонар шаноўных гасцей. Я кіўнуў галавою, а намесніца дырэктаркі ўсунула мне аркуш з вучнёўскага сшытка, спісаны слупкамі паэтычнага твора. Я схаваў картку ў кішэню і адразу ж пра яе забыўся.

Праз тыдзень завуч папрасіла мяне зайсці да яе ў кабінет, калі закончыліся ўрокі. Заганяны пасля фізкультуры і задуменны пасля матэматыкі, я прыбег.

— Ну што, Шукеловіч, вывучыў верш, што я давала? Давай расказвай, я праверу, ці добра дэкламуеш.

— Гм, — я толькі цяпер згадаў пра верш у кішэні. Мае ж дзіцячыя мазгі пачалі шукаць выйсця з сітуацыі. — Ведаеце, Марыпаўлаўна, мы бульбу садзім і мне мама сказала хутчэй дахаты ляцець, бо мне трэба кашы падносіць.

— Ну, добра, — згадзілася настаўніца, якая і сама, відаць, спяшалася дахаты. — Час да настаўніцкага з'езда яшчэ ёсць. Бяжы, бо бацькам трэба памагаць, але прыйдзі праз два дні.

Праз два дні мне трэба было забіраць малодшую сястру з садочка. Потым мне балеў жывот, пасля да нас прыязджалі госці і цялілася карова. Вучыць верш я пачаў усяго за пару дзён да канцэрта.

Верш быў доўгі, але мне спадабаўся. «Усё лятуць і лятуць тыя коні, срэбнай збруяй далёка грымяць...».

Нарэшце ў нашую школу, якая блішчэла чыстымі вокнамі на сонцы, прыехалі доўгачаканыя настаўнікі. Паўдня яны лазілі па школе, прысутнічалі на ўроках, елі грачнёвую кашу з доўгай катлетай у сталоўцы, а потым сышліся ўсе ў актавай зале.

Каб не зблытацца падчас выступу, я напісаў шарыкавай ручкай самыя цяжкія радкі дробнымі літаркамі ў сябе на руцэ.

— Глядзі ж не забудзься, бо як заікнешся — будзе сорам для ўсёй школы, — падбадзёрвала мяне намесніца дырэктаркі.

Актавая зала была поўная. Настаўнікі з усяго раёна сядзелі, неяк дзіўна задраўшы ўгору насы. Былі там і сівыя, і маладыя, худыя ды тоўстыя... Тыл сцэны, як цяпер памятаю, быў упрыгожаны вялікай чырвона-белай «Пагоняй» аўтарства настаўніка малявання. Нарэшце вядоўцы-старшакласнікі з чырвонымі папкамі гучна аб'яўляюць: «Пагоня» Максіма Багдановіча. Я чую, што нехта ззаду пхае мяне ў плечы. Аўтаматычна, як у нейкай смузе, я ўзлажу на сцэну, абводжу вачыма залу і раптам разумею: я не памятаю ні радка, у галаве — бела і пуста. Напружваюся, зморшчыўшы бровы, але дарэмна. Перад вачыма толькі кашы, якія я падношу, калі дарослыя садзяць бульбу пад каня. Але ж выратаванне ёсць! Дробныя літаркі на руцэ! Позірк слізгае на далонь, але я не магу разабраць ні слова: чарніла размазалася, бо ад знерванасці перад выступленнем я нервова паціраў рукамі. Што рабіць? Каб хоць нехта нагадаў пачатак верша, далей я б успомніў...

Я азірнуўся, шукаючы вачыма намесніцу дырэктаркі, каб тая прашаптала пачатак верша, і затросся ад нечаканасці: за маймі плячыма па палітым крывёю полі скакаў белы рыцар, які ад нецярплівасці крыху прыўзняўся на мускулістым кані, трымаючы ў руках меч.

Не ведаю, што гэта было, але радкі самі пацяклі з маіх вуснаў. «Толькі ў сэрцы трывожным пачую, за краіну радзімую жах...» — дэкламаваў я цвёрда і з напорам.

«Усё лятуць і лятуць тыя коні...» — у маіх вачах былі вершнікі і коні, якія звонка білі капытамі па цвёрдай зямлі ў туманах. Я прачытаў увесь твор бясхібна. Зала настаўнікаў устала, цяпер гэта былі не толькі задзёртыя насы, а людзі, якія энергічна пляскалі ў ладкі. Нехта нават крыкнуў «Брава!». Мне ніколі больш так не дзякавалі воплескамі. Гэты выступ стаў самым удалым у маім жыцці. Багдановічаву «Пагоню», якая зрабіла мяне вялікім артыстам, я не забуду і праз больш як 20 гадоў.

**Belsat.eu**

# У Прыднястроўі праваслаўны святар праехаўся вярхом на грэшніку



Прыхаджане праваслаўнай царквы Архангела Міхаіла, размешчанай у сяле Хрустава непрызнанай Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспублікі, знялі відэа з рытуалам «выгнання дэманаў» мясцовым бацюшкам.

На ім бачна, як святар спачатку пракаціўся на мужчыне вярхом, заявіўшы, што едзе «ў Ерусалім, а потым на Афон», а пасля пачаў таптаць яму спіну і шыю. «Грэшнік» плакаў, лаяўся, адпускаў жарты і цікавіўся, чым сілкуецца бацюшка. Аператар маліўся, звяртаючыся то да аднаго, то да другога ўдзельніка працэсу. Абрад працягваўся больш за восем хвілін, пасля чаго шматлікія гледачы прапанавалі яго паўтарыць. Бачна, што дзейства забаўляе людзей — яны не хаваюць усмешак і весялосці.

Настаяцель царквы Архангела Міхаіла протаіерэй Валерый (Галайда) вядомы тым, што спрабуе лячыць ад алкагалізму, наркаманіі, вядзьмарства і анкалагічных захворванняў малітвай, святой вадой і сабораваннем, а таксама «актыўна практыкуе выгнанне дэманаў».

Малдаўскія СМІ паведамілі, што Мітраполія Малдовы зацікавілася ролікам, асудзіла тое, што адбываецца, бо яно моцна адрозніваецца ад кананічнага абраду, і паабяцала разгледзець інцыдэнт на царкоўным судзе.

**Зміцер Міцкевіч**

# Чарніц і суніц сёлета будзе шмат, а вось грыбоў — не



Першы намеснік міністра лясной гаспадаркі Аляксандр Кулік упэўнены: ягаднікаў сёлета чакае нядрэнны ўраджай суніц і чарніц.

«Спрагназаваць канчаткова ўраджай, вядома, складана. Аднак можна адзначыць, што ў гэтым годзе была досыць спрыяльная для цвіцення ягаднікаў вясна, — адзначыў Аляксандр Кулік. — Такім чынам, ураджай ягад павінен быць нядрэнны».

Па асабістых назіраннях першага намесніка міністра, вельмі добра квітнеюць суніцы ад Стоўбцаў да Лагойска, Крупак, Барысава.

«Тут ягада будзе. Чарніцы таксама. Пра журавіны казаць можна будзе пазней», — дадаў ён падчас анлайн-канферэнцыі на сайце БелТА.

«А вось грыбнікоў мушу расчараваць: маласнежная зіма і сухая вясна не спрыяюць багатаму ўраджаю грыбоў.

Аднак усё вырашыць далейшае надвор'е і колькасць ападкаў», — адзначыў Аляксандр Кулік.

**ЛМ**

# Юрый Чыж: Не падтрымліваю людзей з нетрадыцыйнай арыентацыяй

Уладальнік мінскага «Дынама» Юрый Чыж пракаментаваў у інтэрв'ю «Прессболу» сітуацыю з запрашэннем на працу маркетолага нетрадыцыйнай сэксуальнай арыентацыі.

— Зімой маркетолагам «Дынама» ледзь не стаў чалавек нетрадыцыйнай арыентацыі. Як вы рэагавалі на гэтую гісторыю?

— Я гэтага маркетолага ў вочы не бачыў. Вось і ўвесь адказ.

— Клуб няёмка выкручваўся з сітуацыі, рабіў заявы на сайце, быў скандал...

— Калі вы хочаце ведаць маю пазіцыю, то я не падтрымліваю людзей нетрадыцыйнай арыентацыі. Але канкрэтна па гэтым выпадку разбіраўся не я, а супрацоўнікі «Дынама». Мы не звальнялі гэтага чалавека. Бо не працаўладкоўвалі яго, кантракта не заключалі. А ўсё пачалося з чаго? Абурылася грамадскасць, нашы заўзятары, фанаты, — успомніў Чыж.

# Сістэмы бяспекі аэрапортаў ЗША аказаліся бяссільнымі ў пошуку зброі

У 95% выпадкаў «дасканалыя тэрарысты» змаглі **пранесці зброю** ці выбухоўку праз сканеры.



Даследчыкі *Red Team* пад выглядам пасажыраў спрабавалі пранесці зброю ці выбухоўку праз дзясяткі амерыканскіх аэрапортаў. Удалося ў 67 з 70 выпадкаў.

У адным з выпадкаў магнітометр паказаў наяўнасць нечага падазронага ў даследчыкаў, але супрацоўнікі службы транспартнай бяспекі проста не знайшлі выбухоўку, прыматаную скотчам да спіны даследчыка.

Міністр унутранай бяспекі ЗША Джэх Джонсан быў расчараваны вынікамі даследавання і правёў тэрміновы інструктаж у штаб-кватэры ўпраўлення, дзе яго пераканалі, што пэўныя змены ў працэдурах дагляду ўжо ўведзеныя.

Міністэрства ўнутранай бяспекі яшчэ ў дакладзе за верасень 2014 года адзначала, што 550 млн даляраў, затрачаныя з 2009 года на абсталяванне нагляду багажу і навучанне персаналу, не далі значных паляпшэнняў у працы ўпраўлення транспартнай бяспекі. «Дзіры» выкліканыя як чалавечым фактарам, так і тэхнічнай часткай сістэм.

**Аляксандр Арсёнаў**



# Ксёндз Уладзіслаў Завальнюк адкрые на даху Чырвонага касцёла пасеку

Завезеныя пчолы карпацкай пароды, **якія не джаляць**.

Задумаў пасеку няўрымслівы пробашч Чырвонага касцёла Уладзіслаў Завальнюк — ён жа старшыня Таварыства пчалярскіх арганізацыяў «БелАпіЮніян».

Пасека мае быць невялічкая, сімвалічная — на тры вульнікі. Такім чынам ксёндз-магістр хоча папулярызаваць пчалярства і, шырэй, харство свету. Цвету ж у горадзе не бракуе: і ліпы, і кветнікі.

Адкрыццё пасекі было запланаванае на 4 чэрвеня, але адклалася з тэхнічных прычын. Касцёл атрымлівае дазвол ветэрынараў на размяшчэнне пчол у горадзе.

**СГ**

**Кіно**

# Вясёлыя агенты




Шпіён
**Жанр:** камедыя, баявік
**Рэжысёр:** Пол Фіг
**У ролях:** Меліса МакКарці, Джэйсан Стэтхэм, Джуд Лоу, Роўз Бірн, Міранда Харт, Бобі Канавале, Марэна Бакарын, Раад Раві
ЗША, 120 хв.
**Адзнака:** 7

С'юзан Купер усё сваё жыццё марыла стаць сакрэтным агентам і нават уладкавалася працаваць у ЦРУ. Аднак вышэй за офіснага супрацоўніка — агента падтымкі — ёй так і не ўдалося прасунуцца. Адночы найлепшы агент Брэдлі Файн правальвае заданне, падчас якога ён павінен быў высветліць месцазнаходжанне ядзернай бомбы, і гіне. Цяпер адзіны чалавек, які валодае гэтай інфармацыяй, — Рэйна Баянава, дачка венгерскага бізнэсмена. Але яна ведае ў твар усіх найлепшых агентаў. Кіраўніцтва ЦРУ вымушанае скарыстацца паслугамі С'юзан Купер, якая да таго ж хоча адпомсціць за смерць Файна.

Амерыканскі рэжысёр і стэндап комік Пол Фіг зняў чарговую яскравую камедыю, гэтым разам пакпіўшы з жанру шпіёнскага баевіка. Меліса МакКарці, вядомая па серыяле «Майк і Молі», а таксама сталая ўдзельніца праектаў Фіга («Дзявочнік у Вегасе» (2011)), сыграла галоўную гераіню С'юзан. Роля вытанчанага шпіёна дасталася брытанцу Джуду Лоу, а Джэйсан Стэтхэм адышоў ад амплуа безэмацыйнага забойцы і выканаў ролю нязграбнага шпіёна-балабола Форда. Рэжысёр Пол Фіг зняўся ў эпізадычнай ролі.

Разам з героямі глядач наведае Рым і Парыж, аднак большая частка фільма была знятая на здымачных пляцоўках Будапешта і ў ваколіцах возера Балатон у Венгрыі. Меліса МакКарці дэманструе дзівоснае валоданне адзінаборствамі: для пастановак выкарыстоўваўся філіпінскі стыль. Некалькі тыдняў рэпетыцый спатрэбілася, каб зняць відовішчную сцэну бойкі на кухні, а самі здымкі занялі два дні.

Адна з самых захапляльных сцэн была знятая ў самалёце, калі ад прабоін у корпусе ўзнік эфект бязважкасці. Для гэтага самалёт быў замацаваны на спецыяльным падвесе, які дазваляў нахіляць і паварочваць яго ў любым кірунку. Усе рухі самалёта кантраляваліся пры дапамозе гідраўлічнага кіравання, а акцёры і каскадзёры былі прывязаныя спецыяльнымі тросамі для стварэння ўражання, быццам яны плывуць.

У якасці запрошаных зорак у фільме з'явіліся Верка Сярдзючка (Андрэй Данілка) і амерыканскі рэпер *50 Cent*.

Стужка вызначаецца нядрэнным, хоць часам недалікатным, амерыканскім гумарам. Героі пастаянна кпяць адзін з аднаго, нават трапляючы ў самыя неверагодныя сітуацыі. Як пародыя фільм удаўся смешным, але прысутнічаюць жорсткія натуралістычныя моманты, што падымае рэйтынг да 18+.

**Настасся Уласава**

Незвычайная гісторыя **кахання назло раку.**

# Маша і Саша


ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

Маша — 18-гадовая дзяўчына з Веткі, якой выпаў цяжкі лёс. Год таму ў яе знайшлі рак, перанесла шмат аперацый і страціла руку. І хвароба не адступае. Але... Дзяўчына знайшла каханне і рыхтуецца пабрацца шлюбам з Сашам. Вяселле адбудзецца ў чэрвені.

Хата Лапіцкіх стаіць на ўскрайку Веткі, побач з хвойным ляском. Год таму ў дом прыйшла бяда, і цяпер гаспадароў рэдка ўбачыш на шпацыры: у хворай на рак Машы на гэта няма сілаў, а ў яе маці — часу. Сям'я жыве паміж бараўлянскім анкадыспансэрам ды домам. І Ніна Яўгенаўна, маці Марыі, нават змушана была звольніцца з працы, каб не пакідаць ні на хвіліну дачку, пакуль тая адыходзіць ад чарговай «хіміі».

Сама Маша без ахвоты ўзгадвае той момант, які падзяліў яе жыццё. Правы рукаў на яе майцы пусты.

«Спачатку былі нейкія незразумелыя праблемы з рукой, яна балела, і мне пачалі яе грэць. Але гэта не дапамагло, і калі зрабілі рэнтген, то ўбачылі, што ўжо ўсё... Павезлі ў Бараўляны, але і там руку не выратавалі, яе давялося ампутаваць», — расказвае дзяўчына і дадае, што да хваробы яны была звычайным падлеткам і сярод астатніх яе вылучала хіба што прыгажосць. Маўляў, нават чужых хлопцаў «адбівала». Іншыя дзеўкі зайздросцілі і зычылі часам чаго кепскага.

«Шмат хлопцаў у мяне было. Але гэта ўсё так, жартачкі. Сур'ёзна да мяне заляцаўся толькі адзін. Добры такі быў, інтэлігентны. Ледзь не зорку абяцаў з неба дастаць, у Тайланд звазіць... Кляўся мне ў каханні, і я верыла. Памятаю, як упершыню пасля аперацыі, ужо без рукі, прыехала ў Ветку і чакала яго званка. Але ён не патэлефанаваў, нават не напісаў «УКантакце». Так крыўдна было», — узгадвае Маша.

Але боль па няўдалым каханні цягнуўся нядоўга. Стары сябар Саша нечакана падтрымаў дзяўчыну, калі тая шукала ў сабе сілы, каб жыць.

«Я зразумела, што людзі вельмі шмат увагі надаюць зусім няважным рэчам: выгляду, пустым абяцанням. Вось Саша, напрыклад, — нічога ў ім няма такога. Але ён адзіны ад мяне не адвярнуўся і паказаў, як я раней памылялася ў людзях», — кажа Марыя.

Саша — звычайны вясковы хлопец. Бацькі ў яго працавітыя — трымаюць некалькі шапікаў у Рэчыцы, маюць некалькі машын. Са сваімі вялікімі, па мясцовых мерках, грашыма Саша папулярны ў дзяўчат. Але яму патрэбна толькі Маша. Ён ужо пераехаў жыць у Ветку і прапанаваў Машы пабрацца шлюбам.

«Прыйшоў на Новы год з букетам рамонкаў, стаў на калені і сказаў, што хоча быць заўсёды са мной, што яму больш ніхто не патрэбен. Я спачатку ў шоку была: то смяялася, то плакала. Потым пагадзілася. Праўда, я ўсё ж баюся, што стану для яго абузай. Мы ж не багатыя, а ў мяне гэтая хвароба... Я часам баюся, што не прачнуся, мяне кожны боль у галаве палохае. Але Саша кажа, што яго нічога не спыняе, ён кахае мяне», — кажа Маша і ў той жа момант сама сябе падбадзёрвае, маўляў, трэба жыць! Калі апусціць рукі, то рукі апусціць і маці, якая і так за гэты год вельмі змянілася — пастарэла, не сочыць за сабою.

Яшчэ больш падтрымліваць прагу да жыцця Машы дапамагаюць яе мары: дзяўчына хоча стаць фатографам і пабываць у Тайландзе. Праўда, фатаграфаваць з адной рукой не вельмі зручна, але дзяўчына стараецца і кажа, што без мэты жыццё губляе сэнс. Як у хворых, так і ў здаровых.


ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ


ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

**Арцём Гарбацэвіч, Ветка**

# Беларусы ў Маскве: «Вярнуцца дамоў — гэта мара»

Маладыя беларусы Дзяніс Лапуноў і Раман Салахаў расказалі «Нашай Ніве» аб сваім жыцці ў сталіцы Расіі.

Абодва хлопцы трапілі ў Маскву падобным чынам: трохі раней іх бацькі пераехалі туды працаваць — у Дзяніса маці, ў Рамана бацька. 19-гадовы Дзяніс скончыў у родным Віцебску 9 класаў, а затым паехаў да матулі. У Маскве ён скончыў каледж, затым уладкаваўся на працу. Цяпер вучыцца на завочным у машынабудаўнічым універсітэце, падпрацоўвае менеджарам па лагістыцы.

Раман пераехаў да бацькі пасля сканчэння мінскага БДУІРа, дзе вучыўся на маркетолага-эканаміста. Цяпер працуе па спецыяльнасці ў IT-сферы.

Абодва хлопцы — каталіцкія вернікі, нават пазнаёміліся яны ў хрысціянскім інтэрнаце.

«У нашым касцёле — гэта Кафедральны сабор Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі — існуе ордэн селезіянцаў. Яны працуюць з моладдзю і побач з храмам стварылі такі хрысціянскі інтэрнат для студэнтаў. Гэта нашмат дзешавей, чым здымаць кватэру. І вось мы трапілі ў адзін з «нумароў» гэтага інтэрната, так і пазнаёміліся», — распавядае Раман.


**Раман (злева) і Дзяніс у беларускім намёце ў Дзень сям'і.**

Жыллё ў гэтым інтэрнаце добрае. Па сутнасці, хлопцы жывуць у чатырохпакаёвай кватэры ў цэнтры горада. У кожным пакоі па два чалавекі. Прычым да кожнага пастаяльца падыходзяць індывідуальна — плаціш, колькі можаш. Калі грошай няма ці часовыя праблемы з імі, на вуліцу цябе ніхто не выкіне. Хрысціяне ўсё ж.

Дзяніс у Маскве каля 2 гадоў. Раман — амаль 4. Але ацэньваюць мегаполіс яны амаль што аднолькава.

«Масква і для Расіі нетыповы горад. З аднаго боку, тут вельмі шмат дабротаў цывілізацыі. З іншага — людзі жывуць даволі адасоблена. Адкрытасці я не заўважыў. Калі б не было касцёла, то было б цяжка, — прызнаецца Раман. — Часта людзі, якія жывуць у Маскве ці прыязджаюць сюды, проста замыкаюцца: дом, праца — і ўсё».

«Мне пасля пераезду жылося не вельмі салодка. Першы семестр у каледжы — пякельны час. Я вучыўся на аўтамеханіка. Гэта была звычайная працоўная вучэльня, як тут кажуць, — «шарага». І так я і жыў: дом, вучэльня. Ну, яшчэ хадзіў у касцёл Святога Людовіка, — кажа Дзяніс. — Але потым зайшоў на святочную імшу ў сабор, тут была моладзевая суполка, я пазнаёміўся з людзьмі, знайшоў сяброў», — дадае Дзяніс.

Па словах хлопцаў, большасць людзей сёння падтрымлівае дзеянні ўлады. Нават крызіс не надта паўплываў на меркаванні. «Вы ж бачылі расійскія навіны? Што ў тэлевізары паказваюць, тое ў людзей і ў галавах. «Крымнаш!» ды іншае», — кажуць яны.

Праблем каталіцкая Царква не мае. Але і ў палітыку не лезе.

Штогод пры канцы мая касцёл ладзіць свята пад назвай Дзень сям'і. У ім удзельнічае ўся парафія.

«У Маскве шмат розных каталіцкіх суполак: польская, французская, іспанская і г.д. І людзі ходзяць у адзін касцёл, але паміж сабой амаль не маюць зносінаў. І сэнс гэтага свята — іх усіх аб'яднаць, пазнаёміць. Падчас мерапрыемства праходзяць канцэрты, запрашаюцца і праваслаўныя, калі яны хочуць. І кожная суполка выстаўляе намёт, які прэзентуе краіну і яе культуру, кухню», — тлумачыць Дзяніс.

І другі год запар хлопцы ставяць на Дні сям'і беларускі намёт.

«Нашая суполка невялікая, — смяецца Раман. — Толькі мы ўдваіх».

У намёце хлопцы прадавалі дранікі. Каб іх прыгатаваць, яны адмыслова прывезлі з Беларусі беларускія прадукты.

«Прывезлі яшчэ печыва, вафлі, квас. Квас з Ліды ўсіх уразіў. Мы прывезлі скрыню, яна разышлася ў першы ж дзень. Заробак ад продажу ўвесь аддалі касцёлу, — кажа Дзяніс. — А ў мінулым годзе мы павесілі два сцягі — дзяржаўны і бел-чырвона-белы. І беларусы падыходзілі і казалі пра бчб-сцяг: «Ого, крута! Малайцы!»

Сёлета свой намёт хлопцы аздобілі нацыянальным арнаментам. Яны самі склалі арнамент у фаташопе, а потым раздрукавалі сабе «вышымайкі».

Хлопцы не плануюць заставацца ў расійскай сталіцы назаўсёды.

«Я не магу ўявіць, што я пражыву тут усё жыццё», — кажа Раман.

З ім згодны і Дзяніс.

«Увосені я прыеду ў Беларусь. Спачатку пайду «здавацца» ў ваенкамат і, калі не забяруць у армію, застануся жыць у Віцебску, — кажа Дзяніс. — Бо вярнуцца дамоў — гэта мара».

**Улад Швядовіч**

# Начальніка ведамства МНС злавілі на адкатах

**За 10% ад кантракта лабіраваў інтарэсы расійскіх кампаній.**

Супрацоўнікі Камітэта дзяржбяспекі пры атрыманні 4 тысяч еўра хабару затрымалі начальніка аддзела арганізацыі рамонту авіяцыйнай тэхнікі Дзяржаўнай аварыйна-выратавальнай установы «Авіяцыя» МНС Беларусі.

У КДБ паведамілі, што ў перыяд з 2013 па 2015 службовая асоба МНС «за незаконнае грашовае ўзнагароджанне ў памеры 10% ад сумы кантракта ў інтарэсах асобных расійскіх камерцыйных структур арганізавала правядзенне тэндараў на закупку авіяцыйных запчастак па завышаным коштце. Пры яго ўдзеле заключана больш за 20 дамоў на агульную суму звыш 25 мільёнаў расійскіх рублёў, 44 тысяч даляраў ЗША і 39 тысяч еўра».

У выніку праведзеных аператыўных мерапрыемстваў устаноўлены канал атрымання супрацоўнікам МНС хабараў з дапамогай так званых кур'ераў, якіх затрыманы выкарыстаў «наўгад» для перавозкі грашовых сродкаў з тэрыторыі Расіі.

У дэпазітарнай ячэйцы фігуранта выяўлена і канфіскавана наяўных грашовых сродкаў на суму 89 тысяч 900 даляраў ЗША, 20 тысяч еўра і 900 тысяч расійскіх рублёў.

Для далейшага расследавання крымінальная справа перададзена ў Следчы камітэт.

**Паводле tut.by**



112.BY

# У Дзятлаве ад удару токам загінуў будаўнік

**На руках у жонкі застаўся малалетні сын.**

Здарэнне адбылося 27 мая. Каля 16.00 Дзмітрый Пенда атрымаў удар токам, ад якога адразу загінуў.

Дзмітрый у той дзень працаваў з брыгадай у будынку хлебазавода Дзятлаўскай філіі Гродзенскага аблспажыўтаварыства: шпаклявалі і тынкавалі сцены. У кацельні ён узяўся шпателем нешта папраўць на сцяне пад столлю. А там тырчалі драты. Яны аказаліся не ізаляваныя і пад напружаннем.

Калі мужчыну ўдарыла токам, то прыціснула да сцяны і не адпускала. Адзін з работнікаў кінуўся адцягнуць Дзмітрыя, але сам не здолеў гэта зрабіць — толькі з дапамогай напарніка. Медыкі рэанімаваць яго не змаглі.

Удава Вольга кажа, што яшчэ няма заключэння судова-медыцынскай экспертызы. Але ў пасведчанні аб смерці пазначана, што муж памёр у сувязі з пашкоджаннем электрычным токам.

«Проста так ад дотыку да дратоў ніхто не гіне», — кажа ўдава. Яна баіцца, што могуць проста схаваць факт, што муж загінуў на вытворчасці.

«Абвінаваціць Дзмітрыя і павесіць на яго ягоную ж смерць я не дазволю», — адзначае Вольга. Яна мае намер дабівацца заведзення крымінальнай справы. «Але баюся, што справу спішуць на няшчасны выпадак. Там працуюць іншыя людзі, і яны будуць у небяспецы. Я не хачу, каб падобны выпадак паўтарыўся».

Адміністрацыя хлебазавода, дзе Зміцер загінуў, так і не прынесла сям'і спачуванняў.

Дзмітрыю было 32 гады. У яго застаўся сын Захар, якому толькі 2 гады і 5 месяцаў.

«Разбіраецца Следчы камітэт. Але пытанне пакуль адкрытае, хто там вінаваты. Ён — майстар, а палез рабіць тынкоўку. Гэта ж разбор ідзе. Не ведаю, што вам тлумачыць», — сказала намесніца дырэктара Дзятлаўскага райпа Валянціна Баравік.

Між іншым, вясной Дзятлаўскі хлебазавод ужо трапляў у хроніку здарэнняў. 31 сакавіка там часткова абвалілася столь. Тады ніхто не пацярпеў, але давялося спыніць працу цэха. Баравік сказала, што цяпер брыгада не ў тым цэху займалася рамонтам.

«Дзятлаўскім раённым аддзелам Следчага камітэта праводзіцца дасьледчая праверка па факце смерці жыхара Дзятлаўскага раёна 1982 года нараджэння. Праводзяцца неабходныя следчыя дзеянні, прызначана судова-медыцынская экспертыза. Высвятляюцца прычыны, у выніку якіх наступіла смерць», — паведаміў прадстаўнік Следчага камітэта Аляксей Клімовіч.

**Сяргей Макарэвіч**

**Іншы мужчына загінуў, зачапіўшы драты электраперадачы**

У вёску Федзюкі Ляхавіцкага раёна 7 чэрвеня 33-гадовы мужчына адправіўся на рыбалку з сябрам. Павудзіць рыбу прыехалі з Баранавіцкага раёна. Адзін вудзіў з моста праз раку Шчару, другі адышоўся далей. Як раптам адбылася ўспышка і рыбак на мосце паваліўся. Прыяцель падбег да яго, а той ляжаў мёртвы з апёкамі. Побач валялася вуда з абпаленым канцом. Мяркуецца, што мужчына закідваў вуду і зачапіў ёй лінію электраперадачы. На мосце стаяў прыхінуўшыся да металічных парэнчаў.


Фасавалі прадукцыю ў антысанітарных умовах.
MVS.GOV.UA

# У Чарнігаве «накрылі» падпольны цэх пад маркай «Камунаркі»

**Аўсяныя шматкі фасавалі шуфлікамі, а какаву гатавалі ў бетонамяшалцы.**

Сталічныя аператыўнікі даведаліся пра падпольную вытворчасць ласункаў пад беларускім брэндам ва Украіне яшчэ летась. Спачатку ўсё праверылі самі, а затым звярнуліся да ўкраінскіх калег. Беларускія звесткі пацвердзіліся. У Чарнігаве выявілі завод, на якім выраблялі какава-парашок і аўсяныя шматкі. Дарогу на рынак прадукцыі давалі пад маркай кандытарскай фабрыкі «Камунарка».

Падчасператрусаў украінскія аператыўнікі канфіскавалі гатовую прадукцыю, сыравіну і абсталяванне на 2 мільёны грыўняў (каля 1,5 мільярда рублёў). На офісе ж прадпрымальнікаў знайшлі падробленыя пячаткі, этыкеткі.

Калі ўкраінскія міліцыянты нечакана прыехалі ў цэх, рабочыя акурат шуфлікамі рассыпалі па пакунках аўсяныя шматкі. Закупалі ж шматкі для «шэрай» вытворчасці ў Харкаўскай вобласці. Фасавалі ў антысанітарных умовах.

Какава фасавалася «аўтаматычна» ў другім цэху. Какава-парашок закідаўся ў бетонамяшалку, каб яго разрыхліць. Дадавалі ванілін. І толькі затым парашок трапляў у пакецікі.

На беларускай «Камунарцы» кожны цэх мае свой колер маркіроўкі. На падпольным заводзе была падроблена нават такая дробязь. Разлік быў зроблена на тое, што Чарнігаўская вобласць мяжуе з Беларуссю, таму наяўнасць у продажы беларускіх тавараў не выкліча падазрэнняў. Расследаванне працягваецца.

**СМ**

## Сцісла

**Новае расследаванне**

Родныя Ігара Пцічкіна, які памёр у мінскім СІЗА ў жніўні 2013, апублікавалі шакуючыя фотаздымкі. На адным хлопца сфатаграфавалі, калі ён паступіў у СІЗА для адседкі (гл. ніжэй), на другім — пасля смерці. На фота нібы розныя людзі: з першага глядзіць малады хлопец, на другім — значна пастарэлы чалавек. Але розніца ў часе паміж імі — усяго 4 дні. Гэтыя фотаздымкі і накiравала маці хлопца Жанна Пцічкіна ў Генеральную пракуратуру. Адтуль справу перадалі ў Следчы камітэт для новага расследавання. Гэта будзе новая спроба родных Пцічкіна давесці, што хлопца перад смерцю білі, як яны мяркуюць.




**20-гадовая студэнтка выкінула ў сметнік немаўля**

Цела дзяўчынкі знайшлі 5 чэрвеня ў памяшканні для смеццевых кантэйнераў студэнцкага інтэрната на вуліцы Беларускай у цэнтры сталіцы. Высветлена, што дзіця нарадзіла і забіла студэнтка ўніверсітэта 1995 года нараджэння. Заведзена крымінальная справа.

**Работнік манастыра забіў сабутэльніка**

Раней судзімы 22-гадовы мінчук працаваў рознарабочым у адным з жаночых манастыроў Мінскай вобласці. У верасні 2014 там ён пазнаёміўся з 32-гадовым мужчынам. Апошні запрасіў новага прыяцеля да сябе ў госці ў в. Абчак Мінскага раёна. Там выпілі і пасварыліся. Маладзейшы накінуўся на гаспадара і збіў яго да смерці нагамі, рукамі і драўлянай шпакоўняй. Пакінуўшы ляжаць на падлозе забітага, госць пераначаваў у яго доме, а раніцай, накрыўшы цела коўдрай, замкнуў дом і з'ехаў у Мінск. Труп знайшлі сваякі амаль праз два месяцы.

**Жанчына-рыбак укусіла судмедэксперта**

Канфлікт узнік паміж рыбакамі на Дняпры ў Рэчыцкім раёне. Трое жыхароў Хойніцкага раёна рыбачылі і выпівалі. Мясцовыя рыбакі праплывалі міма на маторцы, і гасцям падалося, што лодка распужала ўсю рыбу. Пачалі сварыцца, а пасля абстралялі лодку з пнеўматыкі. Рэчыцкія рыбакі выклікалі міліцыю. Калі дэбашыраў пачалі саджаць у машыну, п'яная жанчына-рыбак цапнула зубамі за руку судмедэксперта з аператыўна-следчай групы. Заведзена крымінальная справа.

**У бальніцы пацыент забіў жанчыну**

Увечары 3 чэрвеня ў адну з бальніц Гродна паступіў мужчына, 1959 года нараджэння, з захворваннем сардэчна-сасудзістай сістэмы. Ноччу ў пацыента на фоне хваробы пагоршыўся псіхічны стан. Ён зайшоў у палату з пажылымі жанчынамі і накінуўся на іх з зэдлікам. У выніку адну з іх забіў, а траім нанёс пашкоджанні рознай ступені цяжкасці. Адна з жанчын знаходзіцца ў крайне цяжкім стане. Мужчына затрыманы.

**Махлярыла на нябожчыках**

У Маладзечне будуць судзіць 45-гадовую жанчыну, якую вінавацяць у махлярстве. Мяркуецца, што яна з 2012 па 2014, калі з'яўлялася дырэктарам рытуальнага прадпрыемства, скрала ў 50 грамадзян каля 360 мільёнаў рублёў. Жанчына прымала замовы на выраб помнікаў, але атрыманыя задаткі пускала на свае патрэбы, а замовы не выконвала. Таксама яна фіктыўна прыняла на працу чалавека, за якога сама атрымлівала заробак.

**КМ**

# Дарослая вайна вакол дзіцячага садка

Мінчукі з вуліцы Славінскага трынаццаты год змагаюцца за дзіцячы садок у сваім раёне. У 2002 годзе яго закрылі, і з таго часу будынак стаіць пусты. На яго месцы хацелі ўзвесці шматпавярховікі, але мясцовыя жыхары выступілі супраць. Цяпер будынак перарабляюць у прэстыжны офісны цэнтр, але жыхары ізноў пратэстуюць. Яны ўпэўненыя — гэта робіцца з парушэннем заканадаўства.

Дзіцячы садок №70 пабудавалі яшчэ ў 1972 годзе. Ён быў разлічаны на 220 дзяцей. У канцы 1990-х правялі пераабсталяванне, колькасць дзяцей паменшылі да 120, але зрабілі фізкультурныя залы, асобныя спальні, басейн.

А ў жніўні 2002 года садок закрылі. Зроблена гэта было паводле загада ўпраўлення адукацыі Першамайскага раёна Мінска. Сцвярджалася, што садок быў недаўкамплектаваны дзецьмі.

«Але гэта была няпраўда! — кажа Валянціна Шалейнікава. У 2002 годзе ў садок хадзіла яе ўнучка. — Наадварот, садкоў не хапала, як і паўсюль у Мінску».

Як кажа жанчына, спачатку бацькам паведамілі, што садок закрываюць на рамонт. Але час ішоў, а будынак стаяў закінуты. Абураныя жыхары пачалі пісаць скаргі, збіраць подпісы, але гэта нічога не змяніла. Пракурорская праверка паказала, што на момант закрыцця садок быў цалкам укамплектаваны, ніякіх праблем з дзецьмі не было.

Як высветлілася пазней, паводле рашэння Мінгарвыканкама ў 2003 годзе будынак бязвыплатна передалі гарадской міліцыі, каб потым прадаць на аўкцыёне. Сродкі ад продажу планавалі пусціць на рэканструкцыю будынка Першамайскага РУУС.


Будынак былога садка сёння.


Валянціна Шалейнікава, прадстаўніца мясцовых жыхароў.


Так будзе выглядаць бізнэс-цэнтр, які будуе кампанія «Тапас».

Калі пра гэта даведаліся жыхары раёна, яны ізноў пайшлі па інстанцыях. У выніку ў 2005 годзе будынак у міліцыянтаў забралі і перадалі на баланс фізкультурнааздараўленчага комплексу Першамайскага раёна. Былі выкананыя праектныя работы на 500 мільёнаў рублёў (на той момант — каля $230 тысяч), але будаўніцтва так і не пачалося.

У 2007 годзе былы садок перадалі дзяржаўнай спартовай установе для стварэння школы алімпійскага рэзерву па боксе. Ізноў праводзяцца праектныя работы, ізноў іх кошт — 500 мільёнаў рублёў.

Праз два гады будынак у чарговы раз мяняе гаспадароў. Мінгарвыканкам перадае яго ТАА «Тапас». У кіраўніцтве групы кампаній «Тапас» добры знаёмы Лукашэнкі — бізнэсовец Павел Белы, які гуляе нападаючым у прэзідэнцкай хакейнай камандзе.

«Тапас», акрамя баксёрскай школы, збіраўся пабудаваць на месцы садка два 18-павярховыя дамы. Гэта выклікала новую хвалю абурэння мясцовых жыхароў. Ізноў пратэсты, скаргі, ліставанне з інстанцыямі... І, як ні дзіўна, будаўніцтва шматпавярховікаў адмянілі. Закінуты будынак працягвае стаяць.

У 2011 годзе «Тапас» робіць чарговую спробу. На месцы садка сабраліся ўзводзіць дзевяціпавярховік. Па словах жыхароў раёна, «замест двух высокіх вырашылі пабудаваць адзін ніжэйшы, але даўжэйшы». Яны зноў аказаліся незадаволеныя і зноў сарвалі будаўніцтва.

Усе гэтыя гады, пакуль будынак перадавалі з рук у рукі, ён стаіць без аховы. Днём у ім гуляюць дзеці, ноччу — спяць бамжы.

Хутка «Тапас» распрацоўвае новы праект. Паводле яго, будынак садка будзе рэканструяваны пад офісныя памяшканні і памяшканні побытавага абслугоўвання (бар, парыкмахерская, трэнажорная зала), побач — паркінг на 100 аўтамабіляў. Плошча новага цэнтра складзе амаль 3 000 метраў. Ні пра якую баксёрскую школу гаворка ўжо не ідзе.

Цікава, што агулам з бюджэту ўклалі ў праекты рэканструкцыі будынка 1 мільярд рублёў. А «Тапас» набыў былы садок за 1,036 мільёнаў. То бок пры продажы будынка ў неблагім раёне дзяржава фактычна нічога не зарабіла. А пасля рэканструкцыі «Тапас» прапануе памяшканні ў новым цэнтры па $1800 за метр.

Жыхары працягваюць барацьбу. Яны абураныя, што ўсе іх заклікі вярнуць дзіцячы садок праігнаравалі. Да таго ж будзе высякацца зялёная зона, праз двары да бізнэс-цэнтра пройдзе новая дарога, машыны будуць стаяць амаль што ў іх пад вокнамі. Жыхары сабралі 516 подпісаў супраць новага праекта «Тапаса» і перадалі іх у раённую адміністрацыю.

«Але чыноўнікі фальсіфікуюць вынікі грамадскага абмеркавання, — кажа Валянціна Палікарпаўна. — Замест нашых подпісаў яны выкарыстоўваюць спіс, які ім перадаў «Тапас».

У гэтым спісе са 145 імёнаў людзі выказваюць сваю падтрымку забудоўшчыку. Подпісы побач з імёнамі не стаяць. Больш за тое, усе «падпісанты» з розных раёнаў сталіцы, некаторыя нават з пасёлкаў пад Мінскам.

«Нешта не памятаю, каб я падпісваўся пад нечым такім», — кажа Аляксандр, адзін з тых, чыё прозвішча стаіць пад дакументам. Раней мужчына працаваў на «Тапас», як і астатнія «падпісанты», да якіх удалося датэлефанавацца. Некаторыя нават успомнілі пра гэты спіс.

«Канечне, я сама там падпісвалася», — сказала адна з жанчын.

Аднак на пытанне, чаму ёй была патрэбная тая рэканструкцыя, яна шчыра адказала: «Часткова таму, што я тады працавала ў той арганізацыі».

**Улад Швядовіч**

**P.S.** Здавацца жыхары не збіраюцца. Але шанцаў у іх няшмат. Рэканструкцыя будынка ўжо ідзе. Дарога пракладаецца. Хутчэй за ўсё, абурэнні, скаргі і лісты жыхароў так і застануцца чарговым крыкам у пустэчу.

# «У часе мінскага саміту мы пад бокам у прэзідэнтаў елі халодную тушонку»

Салдат з беларускай роты **ганаровай варты** расказаў пра службу.

Вадзіму — 20 гадоў. Па заканчэнні школы ён не здолеў замацавацца ва ўніверсітэце, і пасля першай сесіі яго адлічылі. Затое забралі ў армію. Хлопец трапіў у роту ганаровай варты (РГВ). Паўтара года сустракаў і праводзіў кіраўнікоў замежных краін.

«Страчаны час, хоць і цікава служылася. Было цікава сустрэць так шмат прэзідэнтаў. Пабачыў усіх кіраўнікоў СНД, кітайскага лідара, прэм'ер-міністраў... Усіх не палічу», — узгадвае ён.

Хлопцу даводзілася проста прыгожа стаяць з карабінам каля трапа самалёта альбо ў рэзідэнцыі Лукашэнкі. Для такой службы выбіраюць толькі высокіх і падцягнутых хлопцаў. «Яшчэ ёсць такое паняцце «каробка»: калі зводная рота збіраецца (чатыры падраздзяленні па 20 чалавек) і з карабінамі на плячы праходзіць «каробкай» перад прэзідэнтам. Такое праводзіцца ў аэрапорце, на вуліцы ля рэзідэнцыі», — расказвае Вадзім.

Вадзіма прызвалі ў памежныя войскі ў 2013. Адтуль забралі ў роту ганаровай варты. Не хацеў, але адмовіцца было нельга. Перавод у РГВ прынёс хіба адзіны плюс — на абед давалі двайную порцыю ежы. А вось сіл паклаў шмат на занятках. Большасць часу даводзілася чаканіць крок. Праводзіліся практыкаванні з карабінам, каб не выпусціць яго з рук у адказны момант.

На сустрэчу замежнай дэлегацыі салдаты выязджаюць з карабінамі. Праўда, яшчэ ў часці вымаюць байкі, без якіх немагчыма страляць. Але застаюцца штыхі — халодная зброя. А вось размоў з імі псіхолагі не праводзяць.

З усіх прэзідэнтаў Вадзіму найбольш запомніліся кіраўнікі Беларусі і Расіі: «Летась я браў удзел у адкрыцці новага будынка музея Вялікай Айчыннай вайны. Там былі Лукашэнка і Пуцін. Глядзець на расійскага прэзідэнта ўжывую і па тэлевізары — два розныя чалавекі: Пуцін старэйшы, чым на экране, невысокі. А Лукашэнка — вельмі вялікі».

Хлопец сустракаў прэзідэнтаў і на перамовах так званай «нармандскай чацвёркі» ў Мінску. Амаль суткі давялося правесці на нагах.

«Я іх сустракаў у рэзідэнцыі. А 9 раніцы мы выехалі з часці. А 15 нас выставілі па пазіцыях. Я стаяў на ўваходзе, з вуліцы. У 21:30 мяне змянілі. Мы заставаліся ў будынку: былі ў асобным пакоі. Сядзелі. Выйсці і пахадзіць не маглі: дзверы па спецыяльных картках адмыкаюцца. Нехта драмаў, нехта на падлозе нават спрабаваў паспаць», — расказвае Вадзім. А вось з харчаваннем былі праблемы. На падобныя выезды салдатам выдавалі па дзве бляшанкі кашы і адну тушонкі. «Але пагрэць іх не было дзе, даводзілася халоднымі есці. Нам не дазволілі нават нож прынесці, каб іх адкрыць. Тупымі штыкамі (яны не навостраныя) калупалі бляшанкі, — тлумачыць ён. — Перакусіць прыносілі толькі пячэнне і мінералку».

Але ўжо праз паўтары гадзіны салдата вярнулі на ранейшае месца. Так ён прастаяў да наступнага дня, калі а 13 гадзіне іх забралі ў часць. «Асобных людзей, хто сустракаў дэлегацыі ў аэрапорце, узнагародзілі дыпломамі (яны таксама ноч там сядзелі). Нам — нічога, нават звальнення не далі», — узгадвае Вадзім.

Прэзідэнтаў сустракаў шмат, а вось у парадзе не паўдзельнічаў, хоць і хацеў. «На парад на 9 Мая сёлета набіралі толькі 38 чалавек: 36 непасрэдна ўдзельнічалі, а 2 — запасныя, якія могуць у любы момант стаць на замену і выканаць любы элемент. І бралі толькі салдат 1 і 2 перыядаў службы. А я ўжо рыхтаваўся да дэмбелю», — расказвае ён.

Вадзім хацеў бы застацца кантрактнікам у роце ганаровай варты. Але «па кантракце прыбралі пасаду «стралок». Гэта значыць, што я мог бы працягваць выязджаць на сустрэчы прэзідэнтаў. А цяпер бы проста ў нарады хадзіў, справамі часці займаўся. Мяне гэта не цікавіць».

**Сяргей Макарэвіч**

# Яшчэ адна загадка святой Еўфрасінні

**Археолагі адшукалі пячатку Еўфрасінні Полацкай. Падобна, што грамата, якую яна змацоўвала, так і не была адпраўленая.**





Пячатка была адшуканая ў пласце XII стагоддзя, ля правай сцяны Спаса-Прэабражэнскай царквы падчас археалагічнай экспедыцыі Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Знайшла яе студэнтка-другакурсніца Дар'я родам з Глыбокага.

На адным баку круглай свінцовай пячаткі — выява святога, на другім — надпіс «Госпадзе, памажы рабе сваёй Афрасінні». Менавіта такая форма імя — Афрасіння, «Офросиния» — выкарыстоўвалася ў жыцці святой і ў надпісах на страчаным крыжы Еўфрасінні Полацкай.

Археолагі знаходзяць такія пячаткі часта. Асабліва ў вялікіх гарадах, дзе былі княскія і епіскапскія рэзідэнцыі. Гандлёвая і палітычная перапіска вялася актыўна, а пячатка была 800 гадоў таму адзіным сведчаннем праўдзівасці дакумента. Дый свінец у зямлі добра захоўваецца.

Пячаткі такога кшталту называюцца «віслыя». Яны змацоўвалі канцы шнурка, якім быў перавязаны скручаны ў сувой дакумент. Не разараваўшы шнурка, скрутак нельга было разгарнуць і прачытаць.

Рабіліся пячаткі, расказвае гісторык і археолаг Сяргей Тарасаў, з дзвюх свінцовых круглых загатовак, накшталт манетаў. Шнурок клаўся паміж імі, і загатоўкі моцна сціскаліся спецыяльнымі абцугамі. Мяккі свінец зліпаўся ў адно. Або выкарыстоўвалася маленькае кавадла з рэльефнай выявай, на якую клаліся загатоўкі, а зверху моцна білі. Адначасова на паверхні свінцу з'яўлялася выява. Працэс быў падобны да біцця манетаў.

Ці рэальна, што знойдзеная пячатка сапраўды належала Еўфрасінні Полацкай? «Іншай Еўфрасінні ў XII стагоддзі ў нас не было, — кажа Сяргей Тарасаў. — Гэта чацвёртая са знойдзеных пячатак з такім адбіткам. Але яна — у найлепшым стане, вельмі ясна чытаецца надпіс. Такую ж пячатку знайшоў я ў 1998-м, падчас раскопак у Полацку. Праўда, адбітак на ёй быў крыху ссунуты і не ўвесь чытаўся.

Яшчэ адна была знойдзеная ў Ноўгарадзе. Адкуль чацвёртая пячатка, у рэестры актавых пячатак, складзеным расійскімі навукоўцамі Яніным і Гайдуковым, не ўказваецца, але аднекуль з Беларусі.

Пячаткі такога тыпу называюцца актавымі. Гэта значыць, што імі змацоўвалі не прыватную перапіску, а дакументы: гандлёвыя дамовы, суправаджальныя лісты, якія адпраўляліся з пасольствамі».

Цікава, расказаў навуковец, што гэта не адзіная пячатка, якой карысталася ігумення Еўфрасіння. Чаму яна мела некалькі — невядома. Можа, для розных тыпаў дакументаў? На аверсе той другой пячаткі — выява Перамянення Гасподняга, на рэверсе — выява святой Еўфрасінні Александрыйскай і надпіс, які ідзе па коле: «Госпадзе, памажы рабе сваёй Еўфрасінняй называнай». Цікава, што святая на пячатцы трымае ў руках шар з крыжом — дзяржаву, сімвал улады. Відаць, Еўфрасіння Полацкая, якая замаўляла пячатку, і ў манастве не забывалася, што яна княская дачка.

Адна пячатка з такім адбіткам была знойдзеная ў Ноўгарадзе, другая — у сучасным латвійскім Кокнесе, які ў часы Еўфрасінні быў Кукенойсам — адным з памежных гарадоў Полацкай зямлі на Дзвіне.

«Самае цікавае ў пячатках — атрыбутацыя: калі дакладна ведаеш, чыя яна і дзе знойдзеная, — кажа Сяргей Тарасаў. — Па гэтым можна прасачыць гандлёвыя і палітычныя сувязі тых часоў. І тое, што пячатка Еўфрасінні была знойдзеная ў Полацку, значыць, што дакумент, які быў ёй змацаваны, з нейкіх прычын не пайшоў па прызначэнні. І ў гэтым ёсць таямніца».

**Сяргей Мікулевіч**

**Аднойчы ў СССР**

# Кроў Джуны, або Хваравіты інтарэс

Піша **Сяргей Ваганаў.**

«Колькі ж ёй было гадоў?» — пацікавілася знаёмая, калі я паведаміў ёй пра смерць Джуны. — «66...» — «Ой, а я думала, 166!» Вокліч прагучаў з такой натуральнай непасрэднасцю, што вымусіў угледзецца ў вочы. Не, ні ценю жарту, адное здзіўленне...

**Джуна (Аўгіння) Давіташвілі**

Нар. у 1949 у вёсцы Урмія Краснадарскага края ў сям'і эмігранта з Ірана Юваша Сардзіса і казачкі. Дзе вучылася — невядома. Ці то кінула Растоўскі тэхнікум кіно і ТВ, ці то скончыла медтэхнікум і з'ехала працаваць у Тбілісі, дзе пазнаёмілася з будучым мужам Віктарам Давіташвілі.

Ад 1980 жыла ў Маскве, займалася лекарствам. «Ацаляла» ў тым ліку вярхушку партыйнага апарата ўключна з Леанідам Брэжневым.

З усплёскам цікавасці да экстрасэнсорыкі і акультызму ў 1980-я стала мегапапулярнай.

У 1995 спрабавала балатавацца ў Дзяржduму.

У 1997 абвясціла сябе «царыцай асірыйскага народа».

Пасля смерці сына Вахтанга ў 2001 адмежавалася ад свету.

Яе пахаваюць на Ваганькаўскіх могілках у Маскве.



Што праўда, я і сам здзівіўся яшчэ не такому сталаму веку, у якім знакамітая ў апошнія 20 гадоў XX стагоддзя лекарка, прадказальніца, родапачынальніца савецкай экстрасэнсорыкі і ўвогуле загадкавая жанчына сустрэла сваю смерць. На тле той мінулай вядомасці паведамленне пра смерць Джуны Давіташвілі выглядала надзіва сціпла, нават звычайна: пайшла ў краму, адчула сябе дрэнна, выявілася, што хварэла на кроў...

Між тым можна казаць, што сышоў у нябыт адзін з самых містычных сімвалаў канаючага СССР. У пэўным сэнсе яе можна параўнаць з Распуціным, прадвеснікам сацыяльнай катастрофы — амаль такая ж набліжанасць да ўладароў дзяржавы і звышчалавечыя «здольнасці» па забеспячэнні іх бессмяротнасці. Знешне ўсё гэта разыходзілася з афіцыйнымі ідэалагічнымі ўстаноўкамі. Але чуткі пра тое, што Джуна ратуе Брэжнева ды іншых членаў і не членаў ад распаду арганізмаў, не забараняліся. Вяла абвяргаліся, але не забараняліся. Што і вырашыла аднойчы выкарыстаць газета «Труд», у якой я працаваў уласным карэспандэнтам па БССР.

Наўрад ці я дакладна згадаю месяц і нават год, у які Джуна была абяцана ў якасці галоўнай сенсацыі на так званым «Вторнике» «Труда» — адмысловым мерапрыемстве, што некалькі разоў на год ладзілася ў розных кутках тагачаснай краіны, а калі-нікалі і ў Маскве. Думаю, што гэта быў красавік 1984, бо згаданы «вторник» звычайна супадаў са штогадовай нарадай уласных карэспандэнтаў, звычайна адбываўся ў Калоннай зале Дома саюзаў і быў вельмі папулярным у масквічоў, бо абяцаў не толькі цікавыя сустрэчы, але і шыкоўны канцэрт. Пра тое, што сярод іншых знакамітых асоб — паэтаў, артыстаў, касманаўтаў — запрошана і Джуна, надавала мерапрыемству асаблівую цікавасць.

Але Джуна перад гледачамі так і не з'явілася. Памятаю, што ў чаканні яе адчувалася нейкая напружанасць. На пытанні, а дзе ж яна, арганізатары адказвалі нешта невыразнае, уздымалі вочы да столі ці наўпрост адмахваліся — не да вас...

А ў гэты час Джуна зачынілася ў ваннай і рэзала сабе вены. Ілля Мелянеўскі, рэдактар аддзела навукі, і памочнік Джуны ў званні палкоўніка дзяржбяспекі ў адчаі ўварваліся ў ванную і ўгаворвалі Джуну супакоіцца...

Што ж папярэднічала гэтаму ўсплёску эмоцый?

Пра тое, што Джуна запрошана ў Калонную залу, у ЦК КПСС даведаліся ад тагачаснага рэдактара Леаніда Краўчанкі, які вырашыў, так бы мовіць, «узгадніць». І атрымаў загад: «Джуну на сцэну не выпускаць...» Бо вакол яе склалася скандальная сітуацыя: шмат замежных пасольстваў праявілі да Джуны хваравіты інтарэс, ажно каля ста паслоў імкнуцца трапіць на гэты вечар...

Па ўспамінах непасрэдных сведак, Джуна ўпала ў істэрыку, кінулася тэлефанаваць сакратарам ЦК, старшыні Дзяржплана Байбакову... Але пільны «памочнік» паспеў адключыць тэлефоны.

...Недзе ў архівах, безумоўна, хаваюцца іншыя падрабязнасці гэтай гісторыі. Але і тое, што вядома, выклікае супярэчлівыя думкі. З аднаго боку, сумнеўна, што замежныя паслы цікавіліся Джунай аж так. З іншага — хтосьці з іх, напэўна, цікавіўся ў спадзяванні пачуць нешта канкрэтнае пра стан здароўя яе «кліентаў», што кіруюць ядзернай краінай. З аднаго боку, барацьба з «цёмнай сілай», выкрыццё «антынавукі», у рэчышчы якога абвяргаліся незвычайныя здольнасці «звычайнай масажысткі». З іншага — карыстанне яе паслугамі ў спадзяванні на доўгае жыццё і бессмяротнасць камуністычнай улады.

Як бы і што ні хавалася пад паверхняй, палкоўнікі дзяржбяспекі «звычайных масажыстак» не ахоўваюць.

# Таццяна Барысік: Цяпер адзежы

## Лаўрэатка другой прэміі Гедройца робіць аператарам ачысткі сцёкаў. Шчырае інтэрв’ю.

Таццяна Барысік стала адкрыццём гэтай прэміі Гедройца. Дэбютная кніга прозы, з Магілёва — і адразу другая прэмія. Адкрыццём для ўсіх, але не для чытачоў «Нашай Нівы». Гэта быў той выпадак, калі рэдактары, пабачыўшы яе ротапрынтную кніжачку вершаў, самі званілі аўтарцы і прасілі даць штосьці ў «НН». А яна дала не толькі вершы, але і жарты, і апавяданні. І тыя творы ўсе заўважылі. Але для шырокага кола Таццяна застаецца чалавекам невядомым.



**Таццяна Барысік**

нарадзілася 1977 у Магілёве. У 1999 скончыла Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. Куляшова Публікавацца пачала ў магілёўскім самвыдаце. Пасля — у «Нашай Ніве». «Жанчына і леапард» — яе першая кніга.

**Я з тае кагорты беларусаў, што ад зямлі адарваліся, але ў вырай не паляцелі**

**Злева направа: Таццяна Барысік, старшыня Саюза пісьменнікаў Барыс Пятровіч, член журы Малгажата Бухалік, пісьменнік Андрэй Федарэнка.**

Сяргей Гудзілін

**— Таццяна, хто ты? Вось раскажы: хто ты?**

— Найперш маці і пісьменніца, на шчасце — яшчэ дачка, на жаль, ужо не ўнучка. Ураджэнка Магілёва паводле пасведчання аб нараджэнні, з вясковым светапоглядам. Я з тае шматлікай кагорты беларусаў, што ад зямлі адарваліся, але ў вырай не паляцелі. Увесь свой нядоўгі век спрабую жыць паралельнымі жыццямі, удаецца не заўжды. І таму часта не па сваёй волі пераўвасабляюся ў суперадказнага героя вядомай паказкі, што не йдзе на ўласнае вяселле па прычыне дзяжурства па лесвічнай пляцоўцы. Ды ў нас многія так. Звыклая справа.

### «Узгадваю бабу з дзедам штодня»

**— Якім было тваё дзяцінства?**

— Звычайнае. Паміж вёскай і горадам. Гаварыць навучылася ў Магілёве, хадзіць у Кругланіве, на мацерынай бацькаўшчыне. У 7 гадоў 1 верасня ўпершыню прывялі ў школу. А назаўтра — ключ на шыі, суп — у тэрмасе, дзвераў нікому не адмыкай. Настаўнікаў слухалася, на ўроках ціха сядзела, але ману і несправядлівасць навучылася адрозніваць даволі рана. У крыўду сябе не давала, аматарам камандаваць іншымі не падпарадкоўвалася. Рабіла, як бацька вучыў: «Першая не лезь, а зачэпяць — дай здачы як след, каб памяталі». Вучоба ў горадзе, канікулы — у вёсцы. Свежына і кірмаш помняцца ярчэй за апошнія званкі, выпускныя, зборы макулатуры. У вёсцы мне і тады, і цяпер было камфортней.

У маленстве на станаўленне асобы больш уплывалі бацькі. Як падрасла, больш прывабнымі і зразумелымі чамусьці бабуліны жыццёвыя парады зрабіліся. Дзядуля заўжды імкнуўся нечым зацікавіць, бабуля ніколі не хлусіла, нават у выхаваўчых мэтах, казала так, як ёсць, і я ёй за гэта ўдзячна. Яны глядзелі і падтрымлівалі мяне ажно да свайго скону не менш за бацькоў.

Гадоў з сямнаццаці пачала падтрымліваць іх і я, бачыла, як мяне там чакаюць, наколькі без маёй дапамогі цяжка. Пасля вучобы абрала размеркаванне на Бабруйшчыну. Паехала, каб да іх бліжэйшай быць. Я была іх любімай унучкай, а яны з цягам часу зрабіліся не толькі роднымі людзьмі, але і сябрамі. Бабулі са мной няма ўжо 12 гадоў, дзядулі — восем. А я ўзгадваю іх штодня і часам лаўлю сябе на думцы, што гляджу на свет іх вачыма.

### Любілі «ўстроіцца»

**— Ты з дасканалым густам апранаешся. Адкуль у цябе гэта? Ад каго?**

— Гэта, пэўна, у крыві. Бацька і бабуля любілі, як казалі раней, «устроіцца» (прыгожа апрануцца) на якую бяседу, паказаць сябе. А яшчэ, мусіць, кампенсацыя за маладосць, калі такой магчымасці не было. Цяпер адзежы багата, але апранацца няма куды.

**— Твае карані — гэта Глуск, Бабруйск, Асіповічы. Дзе канкрэтней? Што там цяпер?**

— Мой бацька паходзіць з Навасёлак Асіповіцкага раёна, непадалёк ад Свіслачы. У Асіповічах жывуць сваякі і пахаваная бабуля па бацьку. Радзіма маёй маці — вёска Кругланіва, яшчэ кажуць Круглоніва, як каму падабаецца. Гэта кіламетраў 30 ад Бабруйска і сем — ад знакамітага мястэчка Глуша [малая радзіма Алеся Адамовіча і Міхася Тычыны — **НН**]. У гэтай мясціне сыходзяцца ў адно тры памежныя раёны Магілёўшчыны — Глускі, Бабруйскі і Асіповіцкі. Адсюль да Магілёва, Мінска і Гомеля аднолькава далёка.

**Працаўладкавацца без знаёмстваў на заробак, большы за 3 мільёны, у Магілёве нерэальна**

Калісьці там жыла шляхта, і старыя людзі памяталі пра гэта, покуль жылі. На могілках там пахаваныя тры пакаленні маіх продкаў. Цяпер ад вясны і да восені там жывуць мае бацькі. Зімой там жыве толькі адзін чалавек, і той не мясцовы, летам — чалавек пяць- сем.

**— Як вы дабіраецеся туды з Магілёва?**

— Спачатку аўтобусамі з перасадкай у Бабруйску, а пасля 3 кіламетры пехатою. Або на дызелі праз Асіповічы, пасля аўтобусам да Глушы і сем кіламетраў па лесе пехатою. Часам, асабліва раней, у студэнцкія гады, даводзілася выкарыстоўваць абодва варыянты, і тады дарога займала амаль дзень.

### Каб зямля не гуляла

**— А што там за хата? Колькі сотак вакол яе? Звяр’ё ёсць?**

— Калі абмераць усё разам з закінутымі смароднікамі, дык, пэўна, гектар. Ніхто не абмяраў. Два двары — адзін ля хаты, другі для быдла — праз вуліцу. Хата вялікая. Старыя, як будавалі, спадзяваліся, што ў ёй танцы ладзіць будуць. Але выйшла іначай — пад старасць бедавалі, што не прапаліць.

Раней засявалі ўсё, каб зямля не гуляла, цяпер трохі сабе на патрэбу.

Цяпер усё дзічэе. Дажджы ідуць рэдка, нават калодзежы гэтым годам перасохлі.

Багата зайцоў, вожыкаў, ёсць тхары і куніцы, летась лісу бачыла.

Зачараваная зямля! Колькі жыць буду, буду памятаць смак перакіслага бярозавіку, трэск каласоў пад сярпом і палёт коршака над полем.

**— Раскажы пра сваю работу. Вершы ты даволі апакаліптычныя пішаш. Як называецца твая пасада і ў чым заключаюцца абавязкі?**

— Я колішні сацыяльны педагог і метадыст дашкольнага выхавання. Чырвоны дыплом у шуфлядзе пыл збірае. Калісьці нават ў факультэцкім конкурсе «Найлепшы будучы педагог года» перамагла. Цяпер працую апаратчыцай па ачыстцы сцёкавых водаў. Абслугоўваю працэс ачысткі вады. Сачу за абсталяваннем, уключаю, выключаю, прыбіраю, адбіраю пробы вады. Чалавеку, які гэтага ніколі не бачыў, растлумачыць даволі цяжка.

Раблю па 12 гадзін па бягучым графіку. Начныя і дзённыя змены. Ніякага рэжыму няма і быць не можа. Фізічная праца з тэхнікаю і бруднай вадой, для якой трэба здароўе...

**— Гэта небяспечная работа? Шкодная? Дачка, выходзіць, цябе не бачыць цэлыя суткі. Чаму ж ты трымаешся за гэтую работу?**

— Па паўсутак дачка мяне не бачыць, некалькі выходных запар гэта пасля кампенсуюць. Так, шкодна, срэбра за гадзіну чорным робіцца, малако за шкоднасць даюць.

Трымаюся, бо работа па мерках Магілёва высокааплатная. Дачку я адна гадую. Была і група круглásутачная ў садку, і начоўкі па сваяках і сябрах з няпоўных трох год.

Ніякіх грашовых дапамог не атрымліваю. А жыць удваіх за 2—3 мільёны выхавацелькі ў садочку ці псіхолага ў школе не хачу. Галеча — гэта страшна.

Праца ў школе не прыносіла мне ні матэрыяльнага дабрабыту, ні маральнага задавальнення. Усведамленне таго, што рэальна нічым не можаш дапамагчы тым, каму дапамагаць покуль яшчэ мае сэнс, неабходнасць адной увечары цягацца па хатах алкаголікаў без святла, ісці супраць свайго сумлення таксама не надавала аптымізму. Гэта не я абрала працу, а яна мяне.

**— Які заробак у Магілёве цяпер лічыцца добрым? На якіх пасадах яго атрымліваюць?**

— Для жанчыны — мільёнаў пяць і вышэй. Магілёў — даволі

### Бліц

**— Магілёў для цябе гэта…**
— Абласны цэнтар, кіламетраў 120 ад Бабруйска.
**— Мінск для цябе…**
— Той жа Магілёў, толькі з трамваямі і метро.
**— Твой любімы колер?**
— Калі апранаць, дык барвовы, калі дзівіцца, дык жоўты.
**— Твая любімая страва?**
— Таматны сок, салёная паляндвічка.
**— Адпачынак для цябе гэта…**
— Збор грыбоў па лесе ці сяброўская бяседа, калі душа карнавалу жадае.
**— Вера для цябе гэта…**
— Перамога над уласным адчаем.
**— Здрада для цябе гэта…**
— У шпіянажы не ўдзельнічала.
**— Быць багатым — гэта колькі?**
— Калі табе хапае.
**— Усход Беларусі пачынаецца дзе?**
— Ужо не Смаленск, яшчэ не Магілёў.
**— Захад Беларусі пачынаецца дзе?**
— Пэўна, Бабруйск з Асіповічамі да яго бліжэйшы, чым Бялынічы са Шкловам.
**— Самы страшны дзень у тваім жыцці…**
— Цяжка выбраць, бо хапала.
**— Самы радасны дзень у тваім жыцці…**
— Пэўна той, калі пацвердзілі, што мая дачка здаровай нарадзілася.
**— Бог ёсць? Дзе?**
— У лясных гушчарах, перасохлых балотах, блакіце нашых азёраў.
**— Ці будзе вайна?**
— Халодная грамадзянская даўно ўжо ва ўсю ідзе.
**— Што будзе пасля нас?**
— Жалобны стол, на якім камусьці з далёкай радні абавязкова бліноў з тварагом не хопіць.

# багата, але апранацца няма куды

карумпаваны горад. Часта заробак залежыць не столькі ад пасады, колькі ад сацыяльнага статуса і сувязяў. Удала працаўладкавацца без знаёмстваў на заробак, большы за 2,5—3 мільёны, нерэальна.

### Чалавек нікому нічога не павінны

**— Раскажы пра сваю дачку. Ты выхоўваеш яе моцнай ці слабой, здольнай пастаяць за сябе ці пяшчотнай? Кім ты яе бачыш у дарослым жыцці?**

— Завуць яе Міхаліна. У яе залатыя рукі. Я мару, каб яна стала ювелірам, у яе да гэтага, здаецца, ляжыць душа. Добра вучыцца, амаль без маёй дапамогі. Я не правяраю штодня ўрокі , не вымагаю дзясятак па ўсіх прадметах. Геніяў адзінкі, а сляпых, крывых і нервовых падлеткаў — паўкраіны. Вышэй галавы не скокнеш.

А наконт «павінна быць моцнай ці слабой», дык жанчына, як і мужчына, нікому нічога не павінны. Не павінны быць ні галавой, ні шыяй, ні іншымі часткамі цела. Чалавек павінны несці адказнасць найперш за сваё жыццё. Інакш пераствараешся або ў ахвяру, або ў расліну-паразіта — абедзве пачварныя істоты.

Мне не хацелася б бачыць некалі побач з сабою саракагадовую капрызулю. Ніхто не жыве два вякі. Калі яна будзе самастойнай, мне будзе жыць і паміраць спакайней.

**— Паэтка Юлія Цімафеева — і жонка твайго канкурэнта за прэмію Гедройця Альгерда Бахарэвіча — пакеплівала з твайго выказвання пра карысць прымусовага размеркавання.**

### Не блытайце аптымізм з легкадумнасцю

— Я не мела на ўвазе кагосьці канкрэтна. Проста пад размеркаванне і службу ў войску звычайна падпадае моладзь, якая мала чаго харошага бачыла. А карысна было б маладым ды ранніх, якія пакуль што няблага ўладкаваліся, дзякуючы бацькам ці шчасліваму выпадку. Не надта напружваюцца на працы, ні за што не адказваюць, а зарабляюць няблага. У вольны час падарожнічаюць па замежжы, сядзяць у сацыяльных сетках. І лічаць, што гэта дае ім права лічыць сябе каралямі джунгляў, а ўсіх астатніх — аўтсайдарамі, якія самі вінаватыя ў сваіх праблемах, бо пазітыву не бачаць.

Размеркаванне карыснае, каб зразумець, чаго яны вартыя самі па сабе, якое насамрэч існаванне па-за зонай іхняга камфорту. Лепш пачнуць разумець жыццё і людзей. Сапраўдны скандал — гэта не беспакараныя дражнілкі ў інтэрнэце, а калі твары б'юць і хаты паляць. Для сваякоў безнадзейнага хворага «не заганяйся» — не найлепшы варыянт парады. А аптымізм не варта блытаць з легкадумнасцю і пафігізмам.

### Невядома, што каго чакае

**— Ты зачапілася за словы Марыйкі Мартысевіч, для якой паездка ў электрычцы — гэта экстрым. Ты бачыш у гэтым адарванасць ад жыцця?**

— Павольнае сталенне, цяплічныя ўмовы і зашмат інтэрнэту. Я мела на ўвазе, што ў кожнага сваё жыццё, свой досвед. Цяжка зразумець тое, з чым не стыкаўся. А стыкнуцца, магчыма, яшчэ прыйдзецца. Невядома, што каго далей чакае. Пераканання, што ўсё залежыць ад цябе, узяў бога за бараду раз і назаўсёды — толькі мроя.

**— Скажы, ты шчаслівая? Была шчаслівая? Будзеш шчаслівая? Калі?**

— Была. Магчыма, яшчэ буду. Калі — не ведаю. Дакладна дазнаюся, як паміраць збяруся. А цяпер я, хутчэй, проста стомленая.

Гутарыў Андрэй Дынько

# Прага ісці насуперак цемры

**Франц Сіўко.** Запісы.



* * *

Дачка знаёмай мастачкі, пераняўшыся беларусацэнтрычнымі развагамі маці пра паходжанне народаў свету, кажа:

— Мама, цябе паслухаць, дык выйдзе, што ўсе людзі на зямлі ад нас, беларусаў, пайшлі.

Мастачка — мая колішняя студэнтка, адна з тых, прафесійнаму ўзрастанню якіх нязменна радуюся, знаёмствам-сяброўствам з якімі ганаруся. Але такога яе, хай сабе нават і жартоўнага прыпушчання — усе і ўсё ад беларусаў! — штосьці прыняць не хочацца. Гэта ж такая кіслая памяркоўнасць, такая нудотная звышабачлівасць запанавала б тады на свеце, што і схавацца б ад яе не знайшлося дзе.

* * *

Напэўна, няблага быць запабежлівым. Але ж, мусіць, і складана такім людзям: пад усё, як той казаў, рук не падкладзеш, усяго не прадугледзіш, усюды сам сабе не падсцелеш. Ад расчаравання ж ці няспраўджанага намеру да неўрозу — рук лекацення ды вырачаных вачэй — адзін крок.

* * *

Лагерны каваль з аповеду В. Шаламава «У стремени» расказвае нашу, беларускую, прыпавесць пра тое, як тры паны пры цары Мікалаю тры дні і тры ночы запар, без перадыху, лупцавалі мужыка, а ён толькі плакаў і крычаў: «А як жа я не еўшы?»

«Да чаго гэтая прыпавесць? — хітравата пытаецца напрыканцы аўтар і сам адказвае: — Ды ні да чаго. Прыпавесць — і ўсё».

* * *

Быццам енк аб чысціні, характве, дабрыні і іншых станоўчасцях, што ў жыцці, што ў творчасці, — абавязкова ўжо запарука панавання добрых намераў у душы. Зусім шэнне да добрага, тым больш калі яшчэ з дуляю ў кішэні, — гэткая ж гідкасць, як і наўпроставае навязванне гідкага.

Чэхаўскі Павел Васілевіч з «Драмы» надта пытанніям чысціні, характва і дабрыні, відаць, не пераймаўся. Квэцнуў навязлівай драматургесе Мурашкінай тэчкаю па галаве — і нічога: мараль у тагачаснай расійскім грамадстве калі і пацярпела, дык зусім не праз такі яго чалавеканенавісніцкі ўчынак.

* * *

І раптам такое гучыць з тэлеэкрана з вуснаў не дурнога ж чалавека: «Чэхаў не любіў людзей!»

Не людзей ён не любіў, а тое, што не варта ў людзях любіць. Тое, што не варта, але дзякуючы нашым перакуленым уяўленням аб катэгорыях маральнага — быццам бы ўжо і след.

* * *

Цынізм — гэта калі ставішся аднолькава цынічна як да іншых, так і да сябе. І найперш, можа, менавіта да сябе. Бо скіраваны на іншых людзей цынізм і назоў іншы мае — зласлівасць. Ганаровае званне цыніка так сабе, без дай прычыны, за прыгожыя вочы не даецца — яго заслужыць трэба.

* * *

Дзеці і ўнукі ва ўсіх народаў ёсць. Але, напэўна, ні ў аднаго факт іх наяўнасці не з'яўляецца сродкам спекуляцый і апраўдання паскудных учынкаў у такой ступені, як у нас, беларусаў.

* * *

Просценькі гарнітур Віктара Астаф'ева ў фільме пра наведанне пісьменнікам родных мясцін — проста царскі строй і адначасна пляма дысгармоніі на фоне тагачаснага вясковага расійскага бязладдзя, безгаспадарчасці. Рэзруху, на якім нават староннему воку спыняцца ніякавата.

* * *

Дзіўны Дастаеўскі ў сваіх развагах датычна вядомай перадсмяротнай цыдулы дачкі Герцэна, дзе яна просіць у выпадку няўдалага самагубства адсвяткаваць яе ўваскрасенне з мёртвых з келіхамі Кліко, а ў выпадку ўдалага — пахаваць, дарэшты ўпэўніўшыся, што мёртвая, бо, маўляў, «зусім непрыемна прачнуцца ў труне пад зямлёю. Надта ж не шыкоўна атрымаецца». Пры агульнай танальнасці спачування да няшчаснай абурылі пісьменніка згадка пра шампанскае ды слова «шыкоўна», у якіх убачылася яму штосьці вывертна-мярзотнае.

Але што ў тых словах вывертнага? Прачнуцца ў труне пад зямлёю — не паскудства? Застацца жыць, хай сабе і супраць уласнай волі, — хіба не варта келіха добрага напою? Усё згодна з уяўленнямі аб мэтазгоднасці. Крыху, можа, сапраўды цынічна, але гэта яшчэ як паглядзець. Хіба нашае ўпартае чапляннe за жыццё, то бок імпэт рабіць насуперак законам прыроды, нашы істэрычныя прэтэнзіі да ўсяго свету падчас нейкай няўдачы, нашы енкі пры набліжэнні апошняе хвіліны, іншымі словамі — гружэнне ўласных праблем на плечы і галовы як блізкіх, так і староннiх, — больш прывабныя?

* * *

Любім трымаць іншых за дурняў. І нярэдка, забавіўшыся такой нікчэмнай гульнёю, страчваем нюх да цвярозай ацэнкі здольнасці гэтых іншых аналізаваць прыхаваныя матывы ды паводзіны нас саміх.

* * *

Скажаш, што ў касцёл на літургію ходзіш, і заўважаеш, як адразу выраз твару ў суразмоўцы мяняецца. Ого, маўляў, молішся, вечнага жыцця прагнеш... Не будзеш жа тлумачыць кожнаму стрэчнаму нюансы сваіх няпростых стасункаў з Богам. Напрыклад, што смяротнага прысуду ў якасці пакарання за забойства не адмаўляеш, што мараторыя на эўтаназію не падтрымліваеш і г.д. І што, як бы часам ні шлі твае погляды ўразрэз з Божымі запаведзямі ды прынцыпамі так званай паліткарэктнай большасці, цвёрда перакананы: уласнымі ўзаемаадносінамі з Богам, як і ўласным жыццём, маеш права распараджацца без пасярэднікаў-падказчыкаў. Якіх сярод дабраслівых, зычлівых, памяркоўных, але часам вунь як злых, ды зайздрослівых, ды напышлівых беларусаў больш чым дастаткова.

* * *

Словы Бібліі — дэкларацыя аб намерах. А з улікам дваістасці асобных яе пастулатаў — і не надта выразных. Да таго ж Святое пісьмо часта супярэчыць самому сабе. Напрыклад, у плане павучанняў датычна непрымальнасці асуджэння. Бо любое ж павучанне само па сабе — ужо асуджэнне. Дык ці дзіва, што пры гэтkіх пярэчаннях кожны інтэрпрэтуе тэксты Бібліі так, як яму ў гэтую хвіліну выгадна.

* * *

Першае ўражанне ад прачытання борхесавай «Эмы Цунц» — недавер. Ці магла Эма не ведаць, што ўсе яе захады пазбегнуць пакарання за забойства — марныя? Аддалася аднаму, каб прыпісаць згвалтаванне іншаму, — ход цікавы, але ж наўрад дазнаўцы з іх сённяшнім арсеналам медыцынскага аналізу міма такога ляпу пройдуць. То хай бы і быў працяг з мінорнаю канцоўкай, тым больш што гэткай, як у аўтара, сюжэт і не вымагаў, і не вырашала яна нічога. Апроч хіба агульнапрынятага, што зло, маўляў, заўжды павінна быць пераможана.

* * *

Чытач — адмысловец спажывання. Яму начхаць на літаратарскія шчыраванкі-мжсабойчыкі, ён шукае адпаведнага ўласнаму светапогляду, настрою, жыццёвым прыярытэтам. Падабаецца нам гэта ці не, але пісьменніцкія эківокі на адрас адно аднаго, папіканкі бляклым ці, наадварот, захапляныі бліскучым для яго, аматара, які і на свой адрас, бядак, чаго толькі ад нас жа, інжынераў душаў чалавечых, ні наслухаецца, — пусты гук. І правільна: калі ўжо паходня свабоды выбару, дык і таму ж чытачу няхай у лабірынце літаратурных сутарэнняў спраўна свеціць.

* * *

Для шараговага чытача, слухача, гледача, нязвыклага ўспрымаць постаць літаратара, музыкі, мастака ва ўсёй яе шматстайнасці ды супярэчлівасці, вынесеныя на шырокую публіку непрывабныя бакі яго натуры — шок, расчараванне. Для рэпутацыі творцы ў вачах грамадскасці — заніжка маральнага ўзроўню, у пэўным сэнсе нават — дыскрэдытацыя асобы. Для лёсу творчае спадчыны — шанец падтрымання цікавасці публікі. Для гісторыі — акт справядлівасці. Што важней — кожны сам для сябе вырашае.

* * *

Такія даўгія літаратурныя пасядзелкі — проста жах. Гадзіна, паўтары, дзве з паловаю... А ўсё, што прамаўлялася, можна было б, калі з розумам, і за трыццаць хвілін сказаць. Потым яшчэ нудотнае, як нядзельнае казанне святара ў шведскай кірсе, чытанне твораў. Такою цягамоцінай хутчэй адвернеш ад тых твораў, чым навернеш да іх.

* * *

Адзін і той жа сон колькі начэй запар: няўрымслівы пры жыцці аматар творчых выступленняў, спачылы актор К., з таго свету імпрэзы ў прыцемненай гардзінамі зале з дапамогаю нябачнага пульта ладзіць. Поўнае памяшканне народу, сядзяць, слухаюць дэкламаванне праз дынамік.

* * *

У дзяцінстве ўсё высока было, усюды, як кінуць вокам, — неба ды аблокі, шыр нясветная; цяпер, на схіле дзён зямных, — тое самае, дзякаваць Богу. Кватэра высока, ніякіх табе сценаў насупраць, ніякіх закуткоў. Таму, мабыць, і скончыць усё на гэткай ноце вольнасці хацелася б: цела грэшнае ў печ, а попел — па ветры, дзе асядзе, там і будзе месц прыстанак. Галоўнае, каб душы было вольна.

* * *

Воля воляю, а як лета на падыходзе, дык і чакаеш яго з напругай: што як занадта будзе гарачае? Вокны кватэры — на поўдзень, у спякотныя дні тэмпература на балконе — пад 50. Таму расчыніць з пакоя дзверы на яго можна сама ранеі а восьмай увечары, калі сонца схаваецца за дахам суседняй шматпавярхоўкі. І то не заўсёды. Нагрэтыя дазвання за дзень сцены астываюць павольна, дык у асобныя дні і да поўначы ледзьледзь надарыцца палёгка. А то яшчэ камар, бядлычына бязрогая, заляціць з ракі, апчасліваць на ўсю ноч дадатковым клопатам. І атрымліваецца, што з 24 гадзін сутак добра калі 4—5 для нармальнага існавання прыдатныя.

* * *

Украінцы і самі, без нашае падказкі ведаюць, што імі задуманае, у сэнсе намеру перакуліць свет ды зрабіць яго не тое што дазвання, а хаця б зболышага людскім, — хутчэй за ўсё марнае. І разумеюць, мабыць, тое, і пра расчараванні, што наперадзе чакаюць, не могуць, канечне ж, не здагадвацца. І ўсё адно не можа не выклікаць павагі гэткая прага ісці насуперак цемры. Як выспа сапраўднага, адзіна вартага на фоне нашых штодзённых енкаў аб вартасці жыцця ды клопату пра тое, як бы яго хоць на якой, хоць на самай фальшывай ноце, але затрымаць, прадоўжыць, працягнуць.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Шыльды з тэкстам «Увага! Карміць галубоў не дабраслаўляецца!» з'явіліся на пляцоўцы перад Свята-Духавым кафедральным саборам у Мінску. На гэтым месцы збіраецца шмат галубоў, якіх мінчукі па гарадской традыцыі тут прыкармліваюць, а галубы пакідаюць пасля сябе сваё біялагічнае смецце. Відаць, што такім чынам адміністрацыя сабора спрабуе вырашыць праблему забруджвання на сваёй тэрыторыі.**



ЮЛІЯ ШУРМЯЛЁВА

**Фатограф Антон Матолька расказаў у сваім блогу пра «беларускую Ісландыю» — месца непадалёк ад Салігорска, у якім тэрыконы (рукатворныя горы з адкідаў вытворчасці) ствараюць «касмічныя пейзажы». Матолька лічыць, што з «Ісландыяй» можа адбыцца тое ж самае, што з «беларускімі Мальдывамі» ў Ваўкавыскім раёне, куды забаранілі ўезд. Тым не меней фатограф не пакідае надзеі, што месца ўсё ж паспрабуюць зрабіць турыстычнай зонай.**



**Фэст «Баранавіцкая вышыванка» адбыўся у Русінах, пад Баранавічамі, на сядзібе Таварыства беларускай мовы. Тут сабралася каля сотні чалавек. У вышыванкі былі адзетыя і малыя, і старыя.**



**Амерыканка Серэна Уільямс перамагла на Адкрытым чэмпіянаце Францыі па тэнісе. У фінале спартсменка была мацнейшай за чэшку Люцыю Шафаржаву. Гэта ўжо дваццаты тытул малодшай з Уільямс у турнірах серыі «Вялікага шлема». Менавіта амерыканка перайшла дарогу на «Ралан Гарос» беларусцы Вікторыі Азаранка.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Папрасіла мужа зварыць грэчку. Пытанне: «Яна павінна праколвацца, як бульба, або ўсплываць, як пельмені?», збянтэжыла мяне надоўга.

* * *

Згубіць тэлефон андроід немагчыма, бо ён заўсёды каля разеткі!

* * *

У пятніцу ў офісе па-сапраўднаму працуе толькі вентылятар.

* * *

Учора памыў джынсы ў пральнай машыне. Цяпер у мяне чыстыя джынсы, чысты тэлефон і невялікі досвед у адмыванні грошай.

* * *

– Грамадзянка Быкадорава, як вы маглі ўдарыць свайго мужа чайнікам па галаве? Няўжо вам было яго не шкада?

– Шкада, вядома. Ён быў такі новы, бліскучы, са свістком.

* * *

Учора напісала на бруднай машыне суседа: «Памый мяне»... Сёння гляджу, а на маёй напісана: «Заходзь, памыю».

* * *

Чалавечы геній бярэ адну перашкоду за адной, а чалавечы ідыятызм наогул не ведае перашкод.

* * *

– Назавіце вашыя моцныя бакі.

– Амбітнасць.

– Мы звяжамся з вамі ў панядзелак.

– Не трэба. Да таго часу ў мяне ўжо будзе праца.

## «НН» сто гадоў з вамі

**За апошнія 300 гадоў** ва ўсім свеце было 1700 войнаў, з якіх на сухой зямлі было 1044 бітвы, на моры — 122, аблог — 490 і капітуляцый — 34. Першае месца па числу бітваў належыць Францыі. Яна вяла 1079 бітваў. Другое месца займае Аўстрыя, за ёй ідзе Англія, Прусія, Гішпанія, Турцыя і Расея.

**«НН». №22. 1915.**

**Спіс Касцяна.** Прапанова Сяргея Касцяна правесці стэрылізацыю асацыяльных тыпаў выклікала ў кожнага журналіста стандартны рэфлекс — забацаць скандальны артыкул пад шапкай «Беларускі Менгеле збіраецца стэрылізаваць 100 тысяч чалавек!». Тым больш палатачнік належыць да Камуністычнай партыі Беларусі (КПБ), на старонках друкаванага органа якой «Мы і время» побач з панегірыкамі Леніну час ад часу можна знайсці артыкулы аб небяспецы міжрасавых шлюбаў.

**«НН». №22. 2005.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»: З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| шэф-рэдактар | Андрэй Дынько |
| сакратарка рэдакцыі | Таццяна Кур'ян |
| намеснікі галоўнага рэдактара | Ягор Марціновіч<br>Зміцер Панкавец |
| галоўны рэдактар | Андрэй Генадзевіч Скурко |
| заснавальнік | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |
| выдавец | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |



АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by



**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**





Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 09.06.2015.
Замова №2133.
Рэдакцыйны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 15022